## УСЕСАЮЗНЫ ПЕРАПІС КАЛГАСАЎ І МТС.

Для правядзеньня вынікаў 2-й калгаснай вясны, праверкі выкананьня рашэньняў VI зьезду саветаў СССР і партыі па калгаснаму будаўніцтву і для распрацоўкі мерапрыемстваў па лепшаму разьвіцьцю і ўмацаваньню калгаснага руху—Наркамзем СССР. арганізоўвае Ўсесаюзны перапіс калгасаў і МТС.

*Перапіс праводзіцца паміж 15 мая і 15 чэрвеня ў выглядзе рапартоў—справаздач калгасаў і МТС Наркамзему і Калгасцэнтру СССР.*

У зьмест рапартоў-справаздач устанаўліваецца наступнае:

1. Рост калгасаў за год. 2. Становішча калгасаў на канец веснавой сяўбы (інвэнтар, рабочая і прадукцыйная жывёла, новыя будынкі і г. д.). 3. Становішча МТС на 1 чэрвеня 1931 году. 4. Вынікі веснавой сяўбы 1931 году ў калгасах і МТС, выкананьне рашэньняў VI зьезду саветаў СССР і партыі аб увядзеньні ацэнкі ў працаднёх і зьдзельшчыны, ліквідацыя абязьлічкі ў працы трактароў, сельска-гаспадарчых машын і інш., 5. Арганізацыя малочна-таварных, сьвінаводчаска-таварных і птушкаводна-таварных фэрм.

Для падрыхтоўкі рапартоў-справаздач у калгасах арганізоўваюцца пад кіраўніцтвам членаў праўленьня і калгасаў брыгады з актыва калгасьнікаў, членаў ЛКСМ, рахункавода, з абавязковым уключэньнем агранома, там дзе ён маецца. Складзеныя рапарты-справаздачы зацьвярджаюцца на пашыраным паседжаньні калгасу.

Рапарт-справаздача складаецца ў чатырох экзэмплярах, з якіх адзін экз. накіроўваецца непасрэдна ў НКЗ СССР у Маскву, другі,—НКЗ БССР, трэці ў райзо, чацьверты экз. застаецца ў калгасе.

Калгасы паўднёвых раёнаў здаюць рапарт-справаздачы не пазьней 1 чэрвеня, калгасы паўночных раёнаў—не пазьней 10 чэрвеня, і калгасы аддалёных раёнаў не пазьней 25 чэрвеня.

Адказнасьць за правядзеньне і паўнату матар'ялаў і сваячасовую адсылку рапартоў у цэнтр, ускладаецца на загадчыка райзу, альбо на намесьніка старшыні РВК, які ведае зямельнымі справамі.

## ЗЬМЕСТ

### Забясьпечыць посьпех калектывізацыі



### Сяўба патрабуе баявых тэмпаў



### За сацыялістычныя фабрыкі мяса



### Рашуча змагацца за сацыялістычную жывёлагадоўлю



# Шырэй распаўсюдзім часопіс „Шляхі калектывізацыі“

## Выклік прымаем

По выкліку селькора Грыгора Гура (Ветрынскага раёну) я абавязуюся даць 60 новых падпісчыкаў на часопіс „Шляхі калектывізацыі“. Ужо завярбована 12 падпісчыкаў.

Абвяшчаю сябе ўдарнікам па распаўсюджваньні часопісу „Шляхі калектывізацыі“ і выклікаю на сацспаборніцтва т. т. Ігнацёнка (Касьцюковіцкі раён), Баз. Румянца (Полацкі раён), Юрка Снытко (Чэрыкаўскі раён).

Чакаю водгукаў праз часопіс „Шляхі калетывізцыі“.

Селькор П. Н. Кавалёў.

(Клімавіцкі раён; калгас „Расьсьвет“).

Малюнак на вокладцы: засыпка насеньня ў сеялку.

(Калгас „Чырвоны Спэцыяліст“ Менскі раён).


Друкарня імя Сталіна [illegible]

*Пралетары ўсіх краін, злучайцеся*

# Шляхі калектывізацыі

ОРГАН НАРКАМЗЕМУ І БЕЛКАЛГАСЦЭНТРУ БССР

Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая, 68 2 паверх, тэл. 14—60

№ 9—МАЙ—1931

ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ



# Забясьпечыць посьпех калектывізацыі

**Шырэй сетку ініцыятыўных груп і камісій садзейнічаньня па арганізацыі новых калгасаў. Зламаць апартуністычную стаўку на самацёк у калгасным будаўніцтве.**

## НОВЫ ПРЫЛІЎ У КАЛГАСЫ

Нарастаючыя тэмпы калгаснага руху з кожным днём паказваюць, што новыя і новыя дзесяткі тысяч бядняцка-серадняцкіх гаспадарак становяцца ў рады тых, якія „ўжо вырашылі пытаньне аб тым, з кім ісьці—з рабочай клясай і калгасным сялянствам за калгасы, ці з кулаком супроць калгасаў“ (з рэзалюцыі VI зьезду саветаў).

Аб гэтым гаворыць і тое, што за першую дэкаду красавіка значна ўзмацніліся тэмпы росту калгасаў па раёнах, якія да гэтага часу адставалі. Так, напрыклад, па Дрыбінскаму раёну калгасны сэктар павялічыўся за дэкаду на 6,1 проц., Багушэўскаму—6 проц., Ветрынскаму—4,1 проц., Сіроцінскаму—4,3 проц., Дубровенскаму—4,1 проц., Копыскаму—4,0 проц., Крупскаму—3,3 проц., Расонскаму--3,3 проц. і Сьвіслацкаму--3,1 проц. пры сярэднім узроўні росту на 1,9 проц па БССР.

Калі-ж узяць тэмпы росту калектывізацыі па ўсёй Беларусіі, то за студзень месяц у калгасы ўступіла 8.878 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, люты—15.679, сакавік—23.825 і за першую дэкаду красавіка—14.338 гаспадарак. Такім чынам тэмпы росту ўзмацняюцца.

Па БССР 21 раён ужо выканаў дырэктыву студзеньскага пленуму ЦК КП(б)Б аб калектывізацыі 30% бядняцка-серадняцкіх гаспадарак да вясны 1931 году.

Справаздачы калгасаў перад аднаасобнікамі аб іх гаспадарчай дзейнасьці за год, аб выніках разьмеркаваньня прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах. Тое, што калгасьнік атрымоўвае больш як

аднаасобнік, пераканалі аднаасобніка бедняка і серадняка ў праважнасьці калектыўнай гаспадаркі. У выніку гэтага і меўся масавы прыліў у калгасы ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі ў калгасах.

Ва ўсіх раёнах БССР па калгасах і вёсках былі праведзены сходы аб сталінскім закліку ў калгасы. Толькі за дзьве дэкады сталінскага закліку ў калгасы БССР уступіла 12.130 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і арганізавана новых 411 калгасаў. Беднякі і серадзякі пасёлку „Янкаў Ложак", Рагачоўскага раёну ў час сталінскага закліку ўступаючы ў калгас, усім пасёлкам заявілі:

— Мы ня можам стаяць у баку ад вялікай сацыялістычнай стройкі. Па закліку партыі мы пераключаемся на новыя рэйкі, на рэйкі сацбудаўніцтва.

Вялікую ролю ў справе разгортваньня сталінскага закліку ў калгасы адыгралі мэтады мабілізацыі дэлегатаў раённых зьездаў калгасаў. Напрыклад, дэлегаты Талочынскага раёну за тры дні арганізавалі 5 новых калгасаў імя Леніна ў Славінскім с/с у вёсцы Усьвейка, Вішнёўка, Якубова і Ліцьвякі. У гэтым раёне за дэкаду сталінскага закліку арганізавана 14 новых калгасаў.

У Крычаўскім раёне арганізавана 11 калгасаў, Смалявіцкім—6 калгасаў, Заслаўскім—6, Полацкім—12 калгасаў, Рагачоўскім 13 калгасаў, Мсьціслаўскім—8 калгасаў і г. д.

Ня менш значным штуршком у справе ўзмацненьня тэмпаў калектывізацыі зьявілася шырокая папулярызацыя пастаноў VI зьезду саветаў СССР і III-га Ўсебеларускага зьезду калгасаў. Напрыклад, у Талачынскім раёне пастановы VI зьезду саветаў былі абгавораны на раённай нарадзе актыву калгасьнікаў. Удзельнікі нарады разьехаўшыся на месцы павялі масавую работу сярод аднаасобнікаў па выпрацоўцы пастаноў зьездаў. У выніку гэтай работы за пяць дзён, па раёну арганізавана новых сем калгасаў, у якія ўступіла 137 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

У Крупскім раёне арганізаваліся з калгасьнікаў брыгады па папулярызацыі пастаноў зьездаў і павялі масавую работу. У выніку гэтай работы за 7 дзён па раёне арганізавана 14 новых калгасаў. Асаблівай увагі заслугоўвае вярбовачная камісія калгасу „Савецкая Беларусь", Крупскага раёну, якая пад кіраўніцтвам ячэйкі КП(б)Б за 5 дзён арганізавала 4 калгасы ў вёсках Старая Слабада, Сармы, Сьвірыдаўка і Машчаніцы. Процант калектывізацыі ў гэтым сельсавеце за адзін месяц павялічыўся з 5 да 30.

Папулярызацыя пастаноў зьездаў сярод аднаасобнікаў падвоіла тэмпы калектывізацыі, калі за апошнюю дэкаду сакавіка ў калгасы ўступіла 8.047 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, то за першую дэкаду красавіка ўступіла ў калгасы 14.338 бядняцка-серадняцкіх гаспадарак.

Адным з лепшых мэтадаў арганізацыі калгаснага прыліву—гэта арганізацыя ініцыятыўных груп па арганізацыі новых калгасаў. Практыка і работа ініцыятыўных груп цалкам сябе апраўдала. Там, дзе былі складзены ініцыятыўныя групы і дзе вялася з імі работа, яны перарасьлі і перарастаюць у калгасы. У Горацкім, раёне за сьнежань месяц перарасьлі ў калгасы 7 ініцыятыўных груп. У Малевіцкім с/с дзьве ініцыятыўныя групы, якія былі арганізаваны вярбоўшчыкамі з калгасу „Чырвоны партызан" за месяц перарасьлі ў калгасы.

Акрамя ініцыятыўных груп працуюць камісіі садзейнічаньня калектывізацыі і вярбовачныя камісіі пры калгасах. Яны вядуць масавую работу па ўцягненьні аднаасобнікаў у калгасы шляхам паказаў калгасных дасягненьняў.

Вярбовачная камісія калгасу імя Сталіна (Талачынскі раён) правяла вялікую работу ў акаляючых вёсках, у выніку чаго выклікала прыліў—12 гаспадарак з вёскі Багрынава, 13 гаспадарак з вёскі Крывое, 21 гаспадарка з вёскі Сіньцава і 10 гаспадарак з хутара Замошча.

Вярбоўшчыкі калгасу „Гром" (Буда-Кашалёўскі раён) павялі работу па вёсках, зрабілі справаздачы калгасаў перад аднаасобнікамі, паказалі ім перавагі калектыўнай гаспадаркі ў выніку чаго ў вёсках Бяростаўка, Васільлеўка і Маразаўскія хутары арганізавалі ініцыятыўныя групы.

„Цяпер ужо мы не адны, кваліфікаваныя бальшавікі, а самі сяляне з калгасьнікаў, дзесяткі тысяч сялян—арганізатараў і агітатараў калгаснай справы будуць несьці наперад сьцяг калектывізацыі“. Гэтыя словы т. Сталіна з усёй яскравасьцю падмацоўваюцца практыкай разгортваньня калгаснага будаўніцтва.

Аднак красавіцкі пленум ЦК КП(б)Б прызнаў тэмпы калектывізацыі па БССР нездавальняючымі, таму што побач з раёнамі, якія разгарнулі сапраўдную бальшавіцкую работу па арганізацыі прыліву, ёсьць раёны, якія ганебна адстаюць па калектывізацыі (Гарадоцкі, Гомельскі, Рэчыцкі, Межанскі, Сіроцінскі і Бабруйскі, у якіх процант напалову ніжэй сярэдняга па БССР).

Праваапартуністычная практыка ў калгасным руху ў гэтых раёнах зьяўляецца асноўнай прычынай слабых тэмпаў калектывізацыі.

„Ня былі прыняты своечасова неабходныя меры, да разгортваньня масавай работы сярод бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, па арганізацыі калгаснага прыліву, а таксама недастаткова выконваліся дырэктывы ЦК аб шчыльнай увязцы працы па калектывізацыі з правядзеньнем усіх чарговых гаспадарча-палітычных кампаній“ (з рэзалюцыі красавіцкага пленуму ЦК КП(б)Б).

За апошнюю дэкаду сакавіка месяца зусім ня было росту калектывізацыі: у Гомельскім, Межанскім, Дубровенскім, Лёзьнянскім Сіроцінскім і Капыльскім раёнах.

У гэтых раёнах маюць месца факты адмежаваньня калгасаў ад аднаасобнікаў. Напрыклад, калгас „Бязбожнік“, Лёзьнянскага раёну ня прымае ў калгас бядняцка-серадняцкіх гаспадарак, устанавіў кандыдацкі стаж, прымае ўмоўна і г. д.

У радзе раёнаў работнікі страцілі бальшавіцкую пільнасьць, ня бачаць клясавай барацьбы ў выніку чаго кулакі і былыя людзі пралазяць у калгасы і разбураюць іх. Напрыклад, у Сіроцінскім раёне ва ўноў арганізаваныя калгасы „Новы быт“ і „Слабада“, Мішневіцкага с/с пралезьлі ворагі калгаснага будаўніцтва: у першы—дзяк, а ў другі сын кулака і сталі на чале кіраўніцтва гэтымі калгасамі. Як вынік гэтыя калгасы праіснавалі з 13 лютага па 20 сакавіка і разваліліся.

„Некаторыя раёны аказаліся няздольнымі выкрыць манэўры кулака, мабілізаваць масы для таго, каб зламаць яго супраціўленьне і забясьпечыць баявыя тэмпы калектывізацыі і падрыхтоўкі да веснавой сяўбы (з рэзалюцыі красавіцкага пленуму ЦК КП(б)Б).

Адным з адмоўных бакоў зьяўляецца і той факт, што ў радзе раёнаў ёсьць вялікі разрыў паміж тэмпамі росту калектывізацыі і арганізацыйна-гаспадарчым замацаваньнем уноў арганізаваных калгасаў. Напрыклад, арганізавана адзяленьне калгасу „Кастрычнікавая рэвалюцыя“, Менскі раён і на працягу трох месяцаў не абагулілі рабочай жывёлы, інвэнтара, кармоў, насеньня і інш.

У выніку трэба адзначыць, што ў тых раёнах, дзе з усёй сур'ёзнасьцю ўявілі сабе задачу пастаўленую студзеньскім пленумам ЦК КП(б)Б у справе разгортваньня калектывізацыі ёсьць значныя посьпехі ў калгасным будаўніцтве, а тыя раёны, дзе па-сапраўднаму, па-бальшавіцку не ўзяліся за сацыялістычную рэканструкцыю сельскай гаспадаркі, калектывізацыя праходзіць ганебна і марудна.

Ліквідацыя прарыву ў раёнах з ганебнымі тэмпамі калектывізацыі з усёй рашучасьцю патрабуе ад раённых арганізацый пераключэньня ўсёй работы ў бок бальшавіцкага змаганьня за тэмпы ў калгасным будаўніцтве. Трэба скарыстаць вопыт работы лепшых раёнаў.

Мабілізацыя савецкай грамадзкасьці, правядзеньне масавай работы, папулярызацыя пастаноў VI зьезду саветаў, III зьезду калгасаў БССР, пастаноў красавіцкага пленуму ЦК КП(б)Б сярод аднаасобнікаў, работа з беднатой і батрацтвам, рашучае змаганьне з кулацтвам і яго агентурай—правымі апартуністымі і „левымі“ загібшчыкамі. Гаспадарчае і арганізацыйнае замацаваньне калгасаў, перавод іх на зьдзельшчыну—забясьпечыць выкананьне задач трэцяга рашаючага году пяцігодкі, у справе калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, у справе завяршэньня суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі на гэтай аснове кулацтва як клясы.

**Скавінскі.**

# АРГАНІЗАЦЫЯ ПРАЦЫ—ГАЛОЎНАЕ Ў ЗАМАЦАВАНЬНІ КАЛГАСАЎ

### Зьдзельшчыну—ва ўсе калгасы

VI Усесаюзны зьезд саветаў у сваіх рашэньнях адзначыў, што „правільная арганізацыя працы ў калгасах становіцца... тэй задачай, ад пасьпяховага вырашэньня якой залежыць даход калгасу і далейшае яго ўзмацненьне. Дапамога калгасьнікам у правільнай арганізацыі працы, распаўсюджаньне зьдзельшчыны і ўстанаўленьне разьмеркаваньня даходаў па працы зьяўляюцца важнейшай задачай зямельных і калгасных органаў“.

Аб тым, што такое зьдзельшчына—яскрава сказаў т. Якаўлеў у сваім дакладзе аб калгасным будаўніцтве: „суць... зьдзельшчыны заключаецца ў наступным: калі ты ўзараў прыкладна столькіта гектараў, табе гэта залічваецца за адзін працадзень. Калі ты ўзараў у паўтары разы больш, дык табе залічваецца ў паўтары разы больш працадзён. Таму, хто зьвёз 15 фургонаў гною трэба запісаць супроць таго, хто зьвёз 3 фургоны—у 5 разоў больш працадзён. Вось і ўся суць“.

Практыка лепшых калгасаў паказала, што пры сьвядомых адносінах калгасьнікаў да працы—зьдзельшчына падвышае вытворчасьць у 2—3 і больш разоў.

Асабліва моцна разьвіваюцца ва ўмовах зьдзельшчыны сацыялістычныя формы працы—сацспаборніцтва і ўдарніцтва. Хутчэйшы перавод на зьдзельшчыну ўсіх асноўных работ у калгасах—зьяўляецца залогам посьпеху другой бальшавіцкай сяўбы. Змаганьне за зьдзельшчыну—гэта змаганьне супроць кулака, за узмацненьне і пад‘ём калгаснага руху.

Вось чаму ў наступную веснавую пасеўкампанію (1931 год) не павінна быць ніводнага калгасу бяз зьдзельшчыны. Пастанова Саюзнага наркамзема аб тым, каб усе асноўныя сельска-гаспадарчыя работы ва ўсіх калгасах былі пераведзены на зьдзельшчыну і ацэнку ў працаднёх—да 15 красавіка павінна быць выканана.

### Эфэктыўнасьць зьдзельшчыны высокая

Адным з першых калгасаў у БССР, які парашыў канчаткова ўнядрыць зьдзельшчыну ва ўсе галіны гаспадаркі—зьяўляецца с.-г. арцель імя Энгельса (Уваравіцкі раён). Зьдзельшчына пачала замяняць у гэтым калгасе падзёншчыну яшчэ ў час уборачнай і асеньняй пасеўнай кампаніі мінулага году.

Зьдзельшчына дала добрыя вынікі. Напрыклад — да ўвядзеньня ў калгасе норм выпрацоўкі і зьдзельшчыны ўборку 1 гектара бульбы ўтваралі 24 чалавекі, а пасьля ўвядзеньня зьдзельшчыны з гэтай работай справілася 14 чалавек (пры працы 2 параконных плугоў).

Пры вывазцы гною на адлегласьць у



Сяўба ў саўгасе



Калектыўна праводзяць веснавую сяўбу

3 кілёмэтры раней калгасьнік рабіў за дзень 4—5 абаротаў, а пасьля ўвядзеньня зьдзельшчыны—колькасьць абаротаў падвоілася (9—10 разоў).

У калгасе „Камінтэрн“ (Уваравіцкі раён) таксама ўведзена зьдзельшчына ў радзе сельгасработ, на якіх поўнасьцю сябе апраўдала. Так, на работах на лядах—мы маем наступнае: раней, каб узараць 1 гектар ляда—працавала на працягу дня 4 параконных плугі, а пасьля ўвядзеньня зьдзельшчыны гэтую работу ўпраўляліся выконваць 3-ма параконнымі плугамі.

Калі раней для таго, каб скасіць 1 гектар сенажаці трэба было 3 касары, дык пры зьдзельшчыне 1 гектар скашвалі толькі 2 касары.

Можна прывесьці шмат прыкладаў высокай эфэктыўнасьці зьдзельшчыны і яе ўплыву на падвышэньне вытворчасьці калгасьнікаў. Аб гэтым гаворыць практыка ўсіх пералічаных калгасаў і рада соцен іншых („Расьсьвет пераможца“, імя XII зьезду КП(б)Б, камуна БВА).

## Правільна арганізуем жаночую працу

Надзвычайна важнае значэньне ў калгасах мае правільная арганізацыя жаночай працы. Нажаль і зараз выкарыстаньне жаночай працы ў калгасах БССР, як правіла, утвараецца ў меншай ступені, чым мужчынскай працы. Па матэрыялах дасьледваньня Беларускай акадэміі навук 9 калгасаў—у апошніх процант выкарыстаньня жаночай працы значна ніжэй мужчынскай. Так, калі на працягу году мужчынская праца выкарыстоўвалася на 62,8 проц., дык жаночая праца выкарыстоўвалася толькі на 47,5 проц. У тых калгасах, дзе ёсьць такія галіны гаспадаркі, што жаночая праца зьяўляецца пераважнай, гэтая праца выкарыстоўваецца больш поўна ў параўнаньні з іншымі калгасамі. Так па матар'ялах галовых справаздач калгасаў за 1930 год відаць наступнае: па 5 паляводчых калгасах мужчынская праца на працягу году ў сярэднім выкарыстоўвалася на 42 проц., а жаночая на 30,6 проц.

Чым больш аграмаджваюцца ў калгасах сродкі вытворчасьці, галіны гаспадаркі, тым больш поўна ўдзельнічаюць жанчыны ў працы калгасаў. Так, напрыклад, у камуне „Бальшавік“, Самахвалавіцкага раёну, якая раней была арцельлю, колькасьць працоўных затрат жанчын усё ўзрастае, у сувязі з большым аграмаджаньнем сродкаў вытворчасьці і арганізацыяй культурна-бытавых установаў (ясьлі, пляцоўкі, сталоўкі і г. д.).

## Зьдзельшчына і жаночыя брыгады

Увядзеньне зьдзельшчыны пры даеньні кароў у калгасе імя Энгельса стварыла стымул для таго, каб жанчыны-даяркі дабіваліся большага ўдою малака. Яны нават пачалі прыглядваць, як скотнік наглядае за жывёлай і корміць яе.

У калгасе „Чырвоная зорка“ (Хойніцкага раёну) жанчыны-калгасьніцы да ўвядзеньня зьдзельшчыны не спраўляліся за дзень апрацоўваць 8 кілё ільнавалакна. Пасьля ўвядзеньня зьдзельшчыны вытворчасьць працы жанчын падвоілася.

У мэтах больш поўнага ўцягненьня жанчын у калгасную работу і больш высокай інтэнсыўнасьці жаночай працы мэтазгодна арганізоўваць калгасьніц у спэцыяльныя жаночыя брыгады. Калгас „Расьсьвет пераможца“ першы ў БССР пачаў арганізоўваць жаночыя брыгады з калгасьніц. Гэты вопыт сябе поўнасьцю апраўдаў.

Калгас „Новы сьвет“, Быхаўскага раёну, практыкаваў у мінулую асеньнюю пасеўную кампанію арганізацыю спэцыяльнай жаночай брыгады па ўборцы бульбы. Брыгада ў складзе 30 жанчын абвясьціла сябе ўдарнай. Пры заданьні выбіраць у дзень 6 баразён бульбы, кожная ўдарніца выбірала 9 баразён. На чале ўдарніц стаяла 55-гадовая калгасьніца Аўдоцьця Сімчанкава. У выніку такой ударнай працы за 1 дзень 36 калгасьніц убралі ўраджай з 2 гектараў бульбы.

Жанчыны калгасьніцы пасьпяхова ўдзельнічаюць у сацспаборніцтве і ўдарніцтве. Напрыклад, у адным калгасе Грэскага раёну да сацспаборніцтва для ўборкі 1 гектара жыта патрабавалася ня менш 12 жанчын, а пры сацспаборніцтве з гэтай працай спраўлялася 10 жанчын.

Гэтых прыкладаў ёсьць шмат.

Правільна арганізуючы жаночую працу, унядраючы зьдзельшчыну ва ўсе галіны сваёй гаспадаркі — ужываючы сацспаборніцтва і ўдарніцтва як сталы мэтад у сваёй штодзеннай працы, калгасы яшчэ больш замацуюць сваё эканамічна-гаспадарчае становішча і ствараць найбольш спрыяючыя ўмовы да новага моцнага прыліву бядняцка-серадняцкіх мас сялянства ў калгасы.

**С. Кудзінаў.**



Праўленьне калгасу абгаварвае пытаньне аб пераходзе на зьдзельшчыну.

# Сяўба патрабуе баявых тэмпаў

**Зьдзельшчынай, сацспаборніцтвам і ўдарніцтвам скароцім тэрміны сяўбы, забясьпечым посьпех другой бальшавіцкай вясны.**

## Да новых перамог

*(Крычаўскі раён)*

Дні падрыхтоўкі да пробнага выезду ў поле ў калгасе „На варце“, Бацьвінаўскага сельсавету—былі днямі напружанай вытворчай работы, днямі кіпучага жыцьця і творчага ўздыму калгасу. Яны на справе, на практыцы жадаюць паказаць свае сапраўдныя посьпехі і дасягненьні перад аднаасобнікамі, якія будуць пільна сачыць за перамогай калгасу.

Вытворчай нарадай і агульным сходам калгасьнікаў, былі створаны тры брыгады па праверцы падрыхтаванасьці калгасу к сяўбе: брыгада па праверцы інвэнтару, збруі і насеньня, брыгада па будаўніцтву і брыгада, якая правярае якасьць і тэмпы падрыхтоўкі.

Усё было праверана—калгас гатоў. Магчыма рабіць пробны выхад у поле. Так канстатавалі брыгады па праверцы.

На пярэдадні работа па падрыхтоўцы дасягнула найвышэйшага ўздыму актыўнасьці: была склікана вытворчая нарада. На нарадзе былі заслуханы інформацыі кожнага брыгадзіра аб выніках праверкі. Там-жа на нарадзе была разьмяркована рабочая сіла па брыгадам, гэта пытаньне распрацоўвалася ўжо даўно, а сёньня калгасьнікі канчаткова зацьвердзілі колькасны склад брыгад і зьвеньняў.

Усяго стварылі 5 асноўных брыгад з 30 зьвеньнямі: брыгада аратых, зьвеньня баранавікоў, жывёлаводаў, цесьляроў, 1 зьвяно агульнае для падвозкі насеньня і ўгнаеньня, запасную брыгаду з 18 асоб для работы ў сталоўцы, дзіцячых ясьлях і г. д.

Тут-жа былі зацьверджаны нормы выпрацоўкі па кожнай брыгадзе і даведзены плян работ да кожнага калгасьніка ў адпаведнасьці з пераходам на зьдзельшчыну.

Раніцою 10 красавіка роўна а 8 гадзіне пачуўся гучны звон—знак, каб калгасьнікі рыхтаваліся. Калгасьнікі ведалі свае абавязкі, запрагалі коняй, вывозілі інвэнтар і роўна ў 9 гадзін, стройнымі калёнамі пачалі зьяжджацца на поле.

Прышлі прадстаўнікі райкалгассаюзу, прадстаўнікі раённай газэты „Сацыялістычны шлях“, прадстаўнік РВК і аграномы. Акрамя гэтага прышлі аднаасобнікі глядзець на пробны выезд калгасу.

Урачыста і бадзёра праходзілі калгасьнікі, жанчыны радасна ўхмыляліся, сабраўшыся групамі гутарылі аб надыходзячай сяўбе.

Беднякі і серадзякі аднаасобнікі гаспадарчым вокам аглядалі плугі, бароны і ўвесь інвэнтар. Любоўна пaглядалі на коняй.

Старшыня калгасу 15-тысячнік тав. Манахаў рапартуе—



Лепшы ўдарнік калгасу „Чырвоны Спэц“ тав. Радзіонаў Антон на будаўніцтве ясьляй.

— „Сёньня мы падагульваем сваю гатоўнасьць да другой бальшавіцкай вясны, сёньня мы паказваем, што моцнай згуртаванасьцю і творчай падрыхтаванасьцю мы сапраўды з гонарам пабальшавіцку вырашым усе гаспадарча-палітычныя задачы, пастаўленыя перад намі партыяй і ўрадам.

Мы па сустрэчнаму пляну павялічваем плошчу яравога кліну на 30 *га*, уводзім новыя культуры. Шмат было цяжкасьцяй, але мы перамаглі. Толькі дзякуючы нясупыннай барацьбе з цяжкасьцямі, шырока разгорнутаму сацспаборніцтву і ўдарніцтву мы прышлі да веснавой сяўбы ў поўнай падрыхтаванасьці.

Мітынг закончыўся.

У паветры раздаўся моцны голас: аратыя, сявальшчыкі, баранаўшчыкі па мясцох. Хутка выстраіліся калгасьнікі каля сваіх плугоў і барон, ім ня трэба было шукаць месца куды стаць. Кожны калгасьнік добра ведаў сваё аружжа вытворчасьці, як чырвонаармеец ведае сваю зброю.

Пайшлі...

У баявым парадку тронуліся калёны—брыгада аратых за імі баранавікоў, сеяльшчыкаў і г. д. Чырвоныя сьцягі калыхаліся ўперадзе.

Аднаасобнікі ўпэўніліся ў тым, што калгас ударнымі тэмпамі рыхтаваўся к сяўбе і зараз па-ўдарнаму праводзіць яе.

Бунтар і Анет.

# ПАДРЫХТАВАНЫМІ ЎСТУПІЛІ Ў ПОЛЕ

*(Магілеўскі раён)*

Ачыстка і сартыроўка насеннага матар'ялу па аднаасобным сэктары ў Гарадзішчанскім сельсавеце выканана ўсяго толькі на 21 проц. Плян веснавой сяўбы не давездены да кожнага двара аднаасобніка.

Прычынай гэтага зьяўляецца недастатковая работа з боку сельсавету па аднаасобнаму сэктару. У адносінах кантрактацыі яравых пасеваў па сельсавету справа абстаіць добра. Плян кантрактацыі перавыкананы на 16 проц. Усяго выканана 116 проц. Сельсавет калектывізацыяй ахвачан на 39 проц.

Калгасы ў падрыхтоўцы да веснавой сяўбы вышлі пераможцамі, асабліва ў гэтым напрамку выдзяляюцца калгасы „Колас“, „Адраджэньне“.

У калгасе „Адраджэньне“ ачыстка і сартыроўка насеньня праведзена, інвэнтар адтрамантаваны поўнасьцю. Калгасьнікі па спэцыяльнасьці разьбіты на брыгады сяўцоў, плугароў, баранавікоў, касцоў, жнеяў і г. д. Да кожнай брыгады прымацован належны інвэнтар і цягавая сіла.

У калгасе складзены страхавыя і фуражныя фонды. Маецца вытворчы плян і вытворчая програма, якая даведзена да кожнага калгасьніка. Уведзена зьдзельная праца ў калгасе. Нормы зьдзельшчыны прыняты калгасьнікаа на агульным сходзе.

Калгас мае прыліву 20 гаспадарак. 8 красавіка ў поўнай баявой гатоўнасьці да сяўбы калгас рабіў пробны выезд у поле, дзе калгасьнікі правялі мітынг і яшчэ раз праверылі сябе, на колькі яны гатовы сустрэць веснавую сяўбу.

Калгас „Колас“ таксама 7 красавіка зрабіў пробны выезд у поле, які яшчэ больш іх упэўніў у гатоўнасьці да сяўбы.

Абодвы калгасы закантрактавалі свае пасевы.

Кулацкая зграя і яго агентура бачучы калгасныя посьпехі, яшчэ больш налягаюць на барацьбу з калгасамі, але калгасьнікі Гарадзішчанскага сельсавету ўсё больш замацоўваюць калгасныя дасягненьні, даюць рашучы адпор кулацкім элемэнтам, па-бальшавіцку падрыхтаваліся і па-бальшавіцку ўступілі ў веснавую сяўбу.

**Снытко і Бялова.**



Сяўба ў саўгасе.

# Посьпех сяўбы забясьпечаны

*(Шклоўскі раён)*

Калгасы Шклоўшчыны да веснавой сяўбы падрыхтаваліся добра. Ачышчана насеньня па калгасам раёну 7.325 цэнтн., адрамантавана 925 штук інвэнтару і 3 трактары, забраніравана кармавога фонду на час вясны: грубых 2.466 цэнтн. і канцэнтраваных 2.205. цэнтн.

Заключылі паміж сабой сацспаборніцтва на час веснавой сяўбы 18 калгасаў, а таксама аб'явілі сябе ўдарнікамі брыгады калгасьнікаў і калгасьніц.

МТС заключыла ўмову з 72 калгасамі, што складае выкананьне намечанага пляну на 107 проц.

На 10 красавіка на зьдзельшчыну перайшло 31 калгас раёну. Згодна гэтага і расстаўлена рабочая сіла. Калгасы „Барацьба" і „Пэўны шлях" даўно вызначылі норму выпрацоўкі, як вывазкі гною, ворыва, баранаваньня і г. д. Пры дапамозе прадстаўнікоў райкалгассаюзу і аграномаў у калгасах складзены нормы выпрацоўкі па пераходу на зьдзельшчыну.

Каб забясьпечыць калгасы кадрамі на час сяўбы, былі праведзены курсы старшынь калгасаў у ліку 30 чалавек, дзе акрамя іншых пытаньняў распрацоўваўся плян засеву і нормы выпрацоўкі — зьдзельшчыны.

Праведзен быў зьлёт жанчын-калгасьніц у ліку 20 чалавек. Таксама прапрацованы нормы выпрацоўкі.

К пачатку сяўбы курсы рахункаводаў далі 45 чалавек. Закончыліся курсы трактарыстых у ліку 180 чалавек.

Усё гэта забясьпечыць калгасы падрыхтаванымі кадрамі, якія разам з калгасьнікамі-ўдарнікамі і ўсёй масай, шляхам зьдзельшчыны правядуць па-бальшавіцку другую калгасную вясну.

**Г. Шумілаў.**



Трактарыстка Койданаўскай МТС [redacted] за работай. [redacted]

# Нашы нормы выпрацоўкі

*(Ветрынскі раён)*

У калгасе „Труд“ пытаньне з пераходам на зьдзельшчыну ўзьнялося з часу разьмеркаваньня ўраджаю і прыбыткаў мінулага году.

Раней была тарыфна-нарміровачная камісія, якая разбіла работу па разрадах, стаўках і расцэньвала кожную работу ўмоўна, але на працягу году пісаліся толькі дні, па якім і ўлічвалася тая ці іншая праца калгасьніка, без падліку прароблена. Дзякуючы гэтаму атрымалася тое, што стараннаму калгасьніку пісалі адзін дзень і разгільдзяю адзін дзень, і пры разьмеркаваньні ўраджаю абое атрымалі пароўну.

Выходзячы з гэтага паўстала пытаньне пераходу на зьдзельшчыну. Калгас зараз мае ў гэтым напрамку наступнае.

Увесь рабочы склад калгасу, як коні, так і людзі разьбіты па брыгадам і вылучаны брыгадзіры. Прапрацованы нормы выпрацоўкі.

Работы разьбіты на пяць груп.

**1-я група**—зусім лёгкія работы, якія расцэнены ў 0,5 працадня: пагоншчыкі коняй, прыбіральнікі памяшканьняў і зусім лёгкія выпадковыя работы.

**2-я група**—расцэнена ў 0,75 працадня: падпасак, прыборка караньплодаў, абрэзка і агарожа саду, ручное апырскваньне і іншыя выпадковыя работы.

**3-я група**—расцэнена ў 1 працадзень: работа на культыватарах, запашка, пасадка бульбы, полка, абсыпка, малацьба, баранаваньне і інш. работы не кваліфікаваныя. Успашка аднесена 1 і 2 раз аднолькава калі глеба суглiністая цяжкая.

**4-я група**—расцэнена ў 1,10 дня: расчарчоўка, мётка стагоў, копка канаў, вываз гною, сяўба ўручную, скотнікі пры поўнай нагрузцы, сьвінары і інш. работы як малатабоец, кравец і г. д.

**5-я група**—расцэнена ў 1,25 працадня: машыніст, брыгадзіры, плотнікі, пячнікі і іншая кваліфікаваная праца.

Выходзячы з гэтых норм выпрацоўкі выпрацавана і норма выпрацоўкі па кожнай рабоце паасобна, напрыклад:

1) ворыва аднalемешным параконным плугам—0,5 *га* ў дзень, баранаваньне ў адзін сьлед—3 кані і 1 чалавек—3 *га* ў дзень.

2) Вывазка гною на 1 каня і 1 рабочага на 0,2 *га* ў дзень, раскідка гною на 1 рабочага на 0,25 *га* ў дзень.

3) Сяўба ўручную на 1 рабочага 1,5 *га* ў дзень, сяўба радавой сеялкай 2 *га* ў дзень.

4) Жніво збожжа машынамі і касьба—азімых 2,7 *га* ў дзень, яравых 3,2 *га*, заграбаньне травы 4 *га*, касьба сенакасілкай на лугу з кочкамі 2 *га*, касьба касой 0,25 *га* на 1 рабочага.

5) Догляд за жывёлай—выпайваньне цялят 20 галоў на 1 работніцу, догляд буйнай рагатай жывёлы—20 галоў на 1 раб. у зімовы час. Догляд за сьвіньнямі—дарослых 20 на 1 раб. і цэлы шэраг іншых работ, якія толькі можна будзе ўлічыць дадаткова.

Гэтыя нормы прапрацованы на агульным сходзе і прыняты. Складзеныя брыгады прыступілі да працы. Кожнаму брыгадзіру прымацован інвэнтар.

Гур Рыгор.

**Прадукцыйнасьць працы—гэта самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзкага ладу.**

(Ленін).

# ЗА КАНТРОЛЬ РУБЛЁМ

**КОЖНЫ РАБОЧЫ САЎГАСУ ПАВІНЕН ДОБРА ВЕДАЦЬ, ЯКОЕ МАЕ ЗНАЧЭНЬНЕ ПЕРАХОД САЎГАСАЎ НА ГАСПАДАРЧЫ РАЗРАХУНАК**

Перавод саўгасаў на гаспадарчы разхунак зьяўляецца важнейшай палітычнагаспадарчай задачай—важнейшы рычаг кіраўніцтва гаспадарчымі арганізацыямі, рычаг выкананьня і перавыкананьня прамфінпляна. Уся сыстэма Сьвінаводу— нядаўна арганізаваная, і якая працуе на найбольш адказным вучастку сельскагаспадарчай вытворчасьці, павінна з асаблівай энэргіяй ухапіцца за ўнядрэньне ў сваю працу кантролю рублём, што забясьпечыць выкананьне баявых задач пастаўленых партыяй і ўрадам перад Сьвінаводам.

За кароткі час існаваньня Сьвінасаўгасаў у іх працы, маюцца вялізарныя посьпехі. Але побач з посьпехамі выяўлены і выяўляюцца пакуль што недахопы: наяўнасьць у значнай колькасьці саўгасаў безгаспадарчасьці, факты простага шкодніцтва, невыкананьне шэрагам саўгасаў і арганізацыямі, абавязанымі дапамагаць стройцы сьвінасаўгасаў, сваіх абавязкаў, што цяжка адбіваецца на прамфінпляне — на баявых тэмпах яго выкананьня.

Гаспадарчы разрахунак — кантроль рублём — ня можа цярпець нядбайных адносін да працы, да невыкананьня прамфінпляну. Ён лепш усякіх пастаноў узмацняе прынцыпы адзінаначальля, ён найбольш войстра патрабуе высокіх якасных паказчыкаў работы, ён замест расхлябанасьці, дрэннай арганізацыі працы — патрабуе напружанай высокаарганізаванай працы. Толькі пры гаспадарчым разрахунку будзе расьці сапраўдны гаспадарнік, праводзячы сацыялістычны рэжым эканоміі, змагаючыся з стратамі. А гэта пры ўмове 37-мільённых затрат па сьвінасаўгасам будзе рашаць праграму стройкі.

У адпаведнасьці з пастановай ураду СССР усе саўгасы, якія ўваходзяць у сыстэму трэста „Сьвінавод" павінны правесьці мерапрыемствы па паглыбленьню і пашырэньню прынцыпу гаспадарчага разрахунку. Усе грашовыя сродкі, патрэбныя дырэктару саўгасу для ажыцьцяўленьня заданьняў трэсту па зацьверджанаму пляну, будуць перададзены праўленьнем у распараджэньне дырэктара саўгасу на падставе сваячасова складаемых ім квартальных грашовых плянаў і ў адпаведнасьці з ходам выкананьня прамфінпляну і ўмоў па адпаведным апэрацыям. Разрахункі паміж саўгасамі і ўсімі яго контрагентамі праходзяць у дэцэнтралізаваным парадку. Разрахункі паміж саўгасамі самой сыстэмы будуць праводзіцца па прынцыпу куплі-продажы непасрэдна паміж саўгасамі, мінуючы праўленьне трэста.

Дырэктары абавязаны заключыць лёкальныя ўмовы па апэрацыям забясьпечаньня збыту і падрадаў на падставе заключаных праўленьнем трэстаў генэральных умоў з адпаведнымі арганізацыямі, за выключэньнем збыту некаторых другарадных відаў сельска-гаспадарчай прадукцыі, на якія саўгас непасрэдна павінен заключыць індывідуальныя ўмовы без генэральных згод і за выключэньнем занараджваемай у цэнтралізаваным парадку прамысловай прадукцыі (аўтамашыны, трактары, угнаеньня, складаныя сельска-гаспадарчыя машыны). У сваіх лёкальных умовах саўгасы прадугледжваюць дасканалую колькасьць, якасьць, каштоўнасьць здаваемай і здабываемай прадукцыі, тэрміны, пункты здачы прадукцыі, альбо аказаньне тых ці іншых паслуг. У ўмовах павінна быць абавязкова прадугледжана адказнасьць бакоў і службовых асоб за выкананьне ўмовы ў адпаведнасьці з пастановамі ураду СССР.

Фінансаваньне будаўніцтва будзе праводзіцца таксама дэцэнтралізавана праз раённыя фінсталы банка, якому праў

леньне накіроўвае ўсе сумы, якія асыгнуюцца на патрэбы будаўніцтва.

Адна з важнейшых задач пераводу на гаспадарчы разрахунак — заключэньне дагавароў — ідзе яўна нездавальняюча. Сьвінавод абсалютную большасьць дагавароў на здачу ўсёй важнейшай прадукцыі па сьвіньням, малаку, прадукцыі тэхнічных прадпрыемстваў і забясьпечаньні саўгасаў сродкамі вытворчасьці заключае ў цэнтралізаваным парадку. Дырэктары будуць толькі, кіруючыся імі, заключаць лёкальныя ўмовы. Хаця ўжо і заключаны важнейшыя ўмовы на будаўніцтва з Саюзбудам, на здачу таварнай прадукцыі з Саюзмясам і шэраг другіх, аднак яшчэ гэтыя ўмовы ва ўсе саўгасы не прасунуты. Не складзены па іх лёкальныя ўмовы і, такім чынам, фактычна неразгарнулася ў саўгасах работа, якая павінна гарантаваць пераход на дэцэнтралізаванае фінансаваньне пакварктальным фінплянам і ўмовам з 1-га мая г.г. Аднак самі саўгасы не ўсьвядомілі сабе значэньня поўнага пераходу на гаспадарчы разрахунак, не азнаёміліся з правіламі. Не правялі перагляду ўдасканальваньня аб'ёму тэрмінаў здачы таварнай прадукцыі, аб'ёму тэрмінаў патрэбных сродкаў вытворчасьці, аб'ёму тэрмінаў будаўніцтва, не зьвязаліся з банкамі, не азнаёмілі іх з разьмерамі вытворчасьці саўгасу.

З усёй войстратой трэба прызнаць, што большасьць трохкутнікаў не ўясьнілі сабе, што перавод саўгасаў на гаспадарчы разрахунак, гэта ёсьць мобілізацыя ўсіх сіл і ўнутраных сродкаў на выкананьне прамфінпляну і не забясьпечылі праз зьлёт ударнікаў, цэхавыя і агульна-вытворчыя саўгаскія нарады, агульныя сходы, мабілізацыю рабочых на актыўнае выкананьне гэтай адказьнейшай задачы. Вельмі мала хто можа пахваліцца спэцыяльнай арганізацыяй збору прапаноў, арганізацыяй спэцыяльнага рацыяналізатарскага рахунку, рэалізацыяй гэтых прапаноў, пераводам работы па гаспадарчаму разрахунку на рэйкі сацыялістычнага спаборніцтва.

Зусім нядаўна на прэзыдыуме ЦП саюзу рабочых жывёлагадоўчых саўгасаў, рабачкомы Негарэлага, Блоні дакладвалі аб тым, што ніякай работы пакуль што ў гэтым напрамку не вядзецца. Больш таго, некаторыя лічаць, што гэта будзе адтэрмінавана, што саўгасы пераводзяцца несваячасова, што гэта перашкаджае сяўбе, масавым апаросам, якія цяпер адбываюцца. Гэта бязумоўна непаразуменьне, бо пераход на поўны гаспадарчы разрахунак, ёсьць сродак лепшага выкананьня сяўбы, больш поўнага захаваньня апаросаў, мабілізацыя ўсіх сіл і сродкаў на аздараўленьне работ; ёсьць бязьлітаснае ўскрываньне і выкарчоўваньне карэньняў безгаспадарчасьці і шкодніцтва.

Больш небясьпечным зьяўляюцца настроі фармальнага прызнаньня важнасьці прынцыпаў гаспадарчага разрахунку пры захаваньні старай безгаспадарчасьці і безадказнасьці. Выходзячы з гіганцкіх задач, якія стаяць перад сьвінсаўгасамі, задачы пераходу на гаспадарчы разрахунак ляжаць у тым, каб партыйныя ячэйкі, дырэктары, рабачкомы безадкладна сталі на чале мас, паднялі масы на актыўны ўдзел у справе выкананьня задач, якія стаяць перад заключэньнем дагавароў, правядзеньні дагаворнай кампаніі і што найбольш важна—выкананьні заключаных умоў, гэта значыць забясьпечаньня выкананьня і перавыкананьня прамфінпляну.

Трэба дабіцца такога становішча, каб кожны рабочы разумеў якое вялізарнае значэньне мае пераход саўгасаў на гаспадарчы разрахунак. Трэба каб былі сабраныя сотні прапаноў безадкладна рэалізаваны для палепшаньня вытворчасьці. Трэба, каб арганізацыя працы—рашучае зьвяно выкананьня прамфінпляну, рост вытворчасьці і якасьці працы на грунце базадкладнага і поўнага ўвядзеньня зьдзельшчыны, ліквідацыя абязьлічкі—былі праведзены сапраўды безадкладна і ўсімі саўгасамі без выключэньня.

Па новаму паўстаюць задачы аўладаньня тэхнікай праз курсы, гурткі, канфэрэнцыі, экскурсіі, аўладаньне тэхнічнай літаратурай. Гэта задача, як адна з цэнтральных задач павінна стаяць перад кожнай савецкай гаспадаркай.

Сутнасьць задач складаецца ў тым, каб

з максымальнай рашучасьцю і канкрэтнасьцю яшчэ і яшчэ раз былі вышуканы сродкі павялічэньня аб'ёму таварнай прадукцыі, каб былі мабілізаваны ў максымальнай ступені ўсе ўнутраныя рэсурсы, каб уся здабываемая таварная прадукцыя была здабыта максымальна танна. Гэтага патрабуе добраякаснае і поўнае выкананьне пляну сяўбы. Трэба, каб былі засеяны ўсе магчымыя землі ня толькі пахаці, але і іншыя непрадукцыйныя ўгодзьдзі, трэба, каб была створана ўласная кармавая база, а ў першую чаргу поўнае палепшаньне натуральных сенажацяй, арганізацыя пашы, сілас—гэта значыць з колькасным размахам пасеву, павінна быць забясьпечана максымальная ўраджайнасьць і самае добраякаснае правядзеньне ўборкі. Павялічэньне выхаду таварнай прадукцыі, як ніколі востра ставіць задачу ліквідацыі страт, якія мы маем у галіне жывёлагадоўлі і сьвінагадоўлі ў першую чаргу. Павінна весьціся рашучая і ўпартая барацьба за захаваньне кожнага парасяці, за максымальны апарос, за эканомію кармоў.

Пераход на гаспадарчы разрахунак з асаблівай вайстратой ставіць задачу палепшаньня пляну, уцягненьня ў яго ўдасканальваньне шырокіх рабочых мас. Як ніколі павялічваецца роля вучоту і справаздачнасьці. Павінны быць прыняты ўдарныя мерапрыемствы для ліквідацыі становішча, якое існуе цяпер, калі бухгальтэрыя адстае на 3 і больш месяцаў. Яна павінна адыгрываць ролю актыўнага памоцніка, яе арганізатара.

Сьвінаводу неабходна аказаць саўгасам рэальную дапамогу па забясьпечаньні кадрамі. Дырэктарам трэба разьмеркаваць існуючыя кадры так, каб было забясьпечана выкананьне і перавыкананьне прамфінпляна. Работа па пераходу на гаспадарчы разрахунак пачынаецца дагаворнай кампаніяй. Таму неабходна пад кіраўніцтвам партыі разгарнуць работу так, каб заключаныя дагавары былі выкананы, што поўнасьцю забясьпечыць выкананьне прамфінпляну сьвінсаўгасаў.

**Аўчыньнікаў.**



**Стада сьвіней камуны „Зьвязда“ (Астр.-Гарадзецкі раён)**

# За сацыялістычныя фабрыкі мяса

„Галоўная наша машына па вытворчасьці мяса ў бліжэйшыя гады— сьвіньня. Сюды павінна быць зьвернута галоўная наша ўвага саўгасаў і калгасаў“.

Якаўлеў.

## ВЫВУЧЫЦЬ ТЭХНІКУ, АЎЛАДАЦЬ НАВУКАЙ

Сьвіньня зьяўляецца найбольш хуткасьпелай і прадукцыйнай жывёлай. Сьвіньня хутчэй і больш дае мяса за адзінку корму, чым буйная рагатая жывёла. Таму сьвіньня вылучана на першае месца ў вырашэньні мясной праблемы.

XVI зьезд нашай партыі прызнаў; што „галоўная наша машына па вытворчасьці мяса ў бліжэйшыя гады—сьвіньня. Сюды павінна быць зьвернута галоўная ўвага, увага саўгасаў і калгасаў“.

Пастаўленыя практычныя задачы перад саўгасамі і калгасамі БССР—даць рабочай дзяржаве ў 1931 г. па сыстэме Калгасцэнтру 150 тысяч сьвіней—будуць выкананы пры ўмове, калі з боку саўгасаў і калгасаў, з боку мясцовых партыйных, савецкіх і калгасных арганізацый сапраўды будзе ўдзелена сьвіньні галоўная ўвага. Трэба рашуча змагацца за правільнае ўтрыманьне і кармленьне сьвіньні. Пры гэтым трэба не дапушчаць лішніх выдаткаў на пабудову „дварцоў“-сьвінарнікаў, без якіх можна абыйсьціся, а таксама трэба даць рашучы адпор другому ўхілу, які зводзіцца да таго, што быццам-бы сьвіньня можа жыць дзе папала і карміцца чым папала.

У некаторых саўгасах і калгасах бываюць выпадкі, што сьвіньні і парасяты дохнуць ад чумы, рожы, белага паносу і г. д. Ніякія вэтэрынарныя мерапрыемствы не дапамогуць, калі ня будуць зьнішчаны спрыяючыя ўмовы для гэтых заразьлівых хвароб. Вопытная сьвінагадоўчая станцыя ў Менску, дзе гадуецца



**Калгасная сьвіньня з прыплодам на пашы**



каля 1.000 сьвіней і парасят і да гэтага часу ня ведае чумы, белага паносу і іншых заразьлівых хвароб. Тлумачыцца гэта выключна тым, што гадоўля сьвіней і парасят на сьвінагадоўчай станцыі праводзіцца правільна, адпаведна патрабаваньню навукі і тэхнікі. „Нам застаецца нямнога: вывучыць тэхніку, аўладаць навукай. Калі мы зробім гэта, у нас пойдуць такія тэмпы, аб якіх мы ня сьмеем марыць“ (Сталін).

І сапраўды, там, дзе аўладалі навукай, там гадуецца ў сярэднім ад кожнай маткі ня менш 12 парасят у год. Вось чаму кожны рабочы саўгасу, кожны калгасьнік, якія працуюць па сьвінагадоўлі, павінны паставіць перад сабою задачу безадкладна „вывучыць тэхніку, аўладаць навукай“. Кожны рабочы, кожны калгасьнік павінен стаць заатэхнікам. „Галоўнае заключаецца ў тым, каб мець гарачае жаданьне аўладаць тэхнікай, навукай вытворчасьці“ (Сталін).

І гэтае жаданьне ў масы рабочых саўгасаў і калгасьнікаў ёсьць і яны пабальшавіцку ўжо ўзяліся за вывучэньне тэхнікі, за аўладаньне навукай. Неабходна толькі арганізацыйная дапамога з боку партыйных, прафсаюзных і гаспадарчых органаў.

**Т. Самусевіч.**

**Мы вырашылі рад буйнейшых задач. Мы ўзялі ўладу. Мы павярнулі серадняка на шлях соцыялізму. Самае важнае з пункту гледжаньня будаўніцтва мы ўжо зрабілі. Нам засталося нямнога: вывучыць тэхніку, аўладаць навукай, і калі мы зробім гэта, тады ў нас пойдуць такія тэмпы, аб якіх зараз мы ня можам і марыць. СТАЛІН.**

# Адкармлівайце бэконных подсьвінкаў на бульбе

Партыяй і ўрадам пастаўлена канкрэтная задача перад гаспадаркамі сацыялістычнага сэктару (саўгасамі і калгасамі) аб вырашэньні мясной проблемы. Лепшай мясной фабрыкай зьяўляецца сьвінагадоўчы саўгас і калгас, а сьвіньня ў параўнаньні з другімі відамі жывёлы зьяўляецца самай лепшай машынай для перапрацоўкі прадуктаў расьліннага паходжаньня.

Асабліва выгадна ставіць на адкорм сьвіней у маладым узросьце, калі яны яшчэ растуць. Адкормленыя да 7-9 месячнага ўзросту подсьвінкі дасягаюць вагі 85-110 кілёграмаў. Ад гэтых подсьвінкаў атрымліваецца добры бэкон. Таму пажадана адкормліваць подсьвінкаў так, каб ад іх атрымаць добры бэкон.

Якасьць бэкону залежыць часткова ад пароды сьвіней—лепшы бэкон атрымліваецца ад мяшанцаў нашай простай мясцовай сьвіньні і ангельскіх кныроў, але яшчэ большае значэньне мае спосаб адкорму і тыя кармы, на якіх подсьвінкі адкармліваюцца.

Для БССР асноўнай крыніцай кармовых запасаў зьяўляецца бульба, і на яе трэба зьвярнуць больш увагі пры адкармліваньні на бэкон сьвіней.

Да гэтага часу быў такі погляд, што пры кармленьні бэконных подсьвінкаў бульбай, ня можна атрымаць добрага бэкону, што такі адкорм наогул справа „гіблая“, але апошнія дадзеныя дасьледчых установаў і добрая якасьць бэкону, атрыманага ад подсьвінкаў, якія карміліся пераважна бульбай, яскрава сьведчаць аб тым, што на бульбе можна атрымаць добры бэкон.

Беларуская цэнтральная дасьледчая сьвінагадоўчая станцыя для высьвятленьня ўплыву бульбы на якасьць бэкону паставіла рад досьледаў.

Замена мешанкі з моцных кармоў, у якую у вялікай колькасьці ўваходзяць высеўкі (яны не даюць добры бэкон), на адну чвэрць або на палову з бульбай, падвышае якасьць бэкону.

Замена мешанкі бульбай павышае прырост подсьвінкаў наступным чынам:

| | | |
|---|---|---|
| 100 проц. мешанкі | 00 проц. бульбы | прырост 100 |
| 75 „ „ | 25 „ „ | „ 115 |
| 50 „ „ | 50 „ „ | „ 115 |
| 25 „ „ | 75 „ „ | „ 105 |

Ніякага шкоднага ўплыву на стан здароўя вялікія порцыі бульбы—60-75 процантаў ня робяць.

Бульбу трэба даваць варанай ці яшчэ лепш запаранай у спэцыяльных бульбазапарніках.

Замена моцных кармоў бульбай робіцца не па вазе, а па спажыўнай каштоўнасьці. Бульба мае шмат вады, чаму яна прыблізна разы ў чатыры менш спажыўная чым мука, збожжа. Таму замест аднаго кілёграма мукі, бульбы трэба браць 4 кілёграмы.

Гэтыя вынікі яскрава гавораць аб тым, што бульба ня толькі добра ўплывае на якасьць бэкону, але апрача таго выгаднасьць яе ўжываньня ў корм подсьвінкам павялічваецца дзякуючы лепшаму росту подсьвінкаў.

Носаўская дасьледчая станцыя ўстанавіла, што бэкон ад подсьвінкаў, якія карміліся бульбай быў лепшы, чым ад тых, якія карміліся караньплодамі.

А. Сьмірноў.

# Як захоўваць і гадаваць парасят пад маткай

## 1. Падрыхтоўка маткі да апаросу

Для атрыманьня добрых апаросаў неабходна клапаціцца аб апаросных матках. Абагуленых матак можна ўтрымоўваць групамі ад 10—30 штук разам. Усе апаросныя маткі, як правіла, павінны гуляць на дварэ. У добрае надвор'е зімой яны гуляюць дзьве гадзіны, а ў дрэнную ня больш гадзіны. Улетку маткі пасуцца і на пашы ўтрымоўваюцца на сьвежым паветры пад павецямі, а ня ў душных сьвінарніках.

Нельга апаросных матак трымаць на цэмантавых ці каменных падлогах. У сьвінарніках павінна быць суха, сьветла і сьвежае паветра.

Кармленьне матак павінна быць самае featureрознастайнае. У кармовую дачу на зіму павінны ўваходзіць розныя сытныя кармы, корняклубняплоды і сена бабовых расьлін. Улетку маткі павінны пасьвіцца на добрых выпасах, лепш усяго на канюшыне, люцэрне ці вікавай мешанцы.

Асаблівую ўвагу трэба зьвярнуць на прагулкі матак. Да апошняга часу гэта справа лічылася дробязьзю амаль ува ўсіх саўгасах і калгасах. Часта замест прагулак матак выпускаюць на вуліцу і запіраюць іх зімой на ветры, дзе яны сябе горш адчуваюць чым тады, калі-б яны гулялі, а не стаялі. Сьвіней і парасят неабходна спакойна ганяць па вуліцы, а не запіраць у загародкі. *На прагулкі трэба зьвярнуць самую сур'ёзную ўвагу, бо без прагулак матак парасяты родзяцца мала жыцьцёвымі і хутка дохнуць.*

Прагулкі па сьвежым паветры павінны стаць такой-жа штодзеннай справай, як і кармленьне сьвіней.

Маткам даецца такая мінэральная падкормка як і парасятам. Аб гэтым гутарка будзе ніжэй.

Добрае ўтрыманьне маткі забясьпечыць нараджэньне здаровых парасят.

За тыдзень ці 2 да апаросу маткі пераводзяцца ў радзільнае аддзяленьне. Раней пераводзіць матку ў радзільнае аддзяленьне асабліва ўлетку, ня мае вялікага сэнсу. За пяць дзён да апаросу корм маткам паступова зьмяншаецца і да апаросу даводзіцца да поўнага разьмеру.

У корм павінны ўваходзіць аўсяная





Сьвіньня камуны „Праца“ (Каралінскі раён).

мука, пшанічныя высеўкі, ячная мука, льняная макуха, корняклубняплоды і сена бабовых, а ўлетку зялёная трава. Корм даецца вадкім. Пояцца маткі ўволю. Прагулкі матак спыняюцца за 1-2 дні да апаросу і 2-3 пасьля апаросу. Іншы час маткі гуляюць па дварэ.

## 2. Прыёмка і пасадка парасят у першыя 5 дзён

За гадзіны 2-6 да апаросу ў сьвіньні маткі пачынаюцца патугі. Звычайна прыбывае малако ў цыцках. Нарадзіўшыхся парасят абціраюць сухой чыстай анучкай і садзяць у скрынку разьмерам 70×60 *см* і вышынёй 50 *см.* Пупок адшчыпваецца рукамі на адлегласьці 10 *см.* Ніякіх перавязак пупка рабіць ня варта. Ні ў якім разе не патрэбна рабіць скрынак для парасят з звужваньнем іх у вярху. У такіх скрынках парасят ня відаць зьверху, скрынкі трудна дэзынфэкаваць і г. д. Самымі лепшымі будуць простыя скрынкі. Заўсёды скрынкі з парасятамі трэба закрываць зьверху саламянай матай ці мяшком. Пры закрываньні скрынкі з парасятамі трэба пакідаць зьверху шчылінку, каб да парасят даходзіла сьвежае паветра. Улетку скрынкі можна замяніць сплеценымі з лазы кошыкамі. Улетку скрынак закрываць ня трэба, бо парасятам бывае і так душна.

Пасьля апаросу вымя ў маткі абмываецца аднапроцантным растворам крэаліны. Потым парасяты падсаджваюцца ссаць.

Пакідаць пад маткай трэба столькі парасят, колькі ў яе добра разьвітых цыцак. Слабейшых парасят падсаджваюць пад больш разьвітыя цыцкі. Парасят падпускаюць ссаць пад матку, тады калі яны пачынаюць хваляватца і прыгаць. Гэта бывае праз 1-2 гадзіны ў залежнасьці ад здароўя парасят і малочнасьці маткі. Парасяты застаюцца ў скрынцы да 5 дзён у залежнасьці ад здольнасьці маткі гадаваць парасят.

Парасят, якія народзяцца слабымі зараз-жа трэба абцерці і сабраць у скрынку, у якую на дно пад салому кладзецца дзьве бутэлькі з гарачай вадой. Бутэлькі кладуцца пад салому так, каб парасяты не маглі апячыся. Парасяты падаграваюцца некалькі гадзін, а можа і суткі ў залежнасьці ад іх здароўя. Здаровых крэпкіх парасят падаграваць ня трэба, бо ад гэтага можа быць не карысьць, а толькі шкода. Падаграваць трэба толькі слабых, хілых, неданошаных парасят.

Часта ад нядогляду вельмі малочныя маткі хварэюць запаленьнем вымені пасьля апаросу. Гэта бывае ад скразьняку у першыя 2 дні пасьля апаросу, а таксама ад невысасваньня маткі парасятамі. Калі вымя запалілася, дык неабходна рабіць прыпаркі і пры паступовым масажыраваньні выдойваць хворыя цыцкі. Пры добрым дoглядзе ў часы апаросу і пасьля можна зусім папярэдзіць гэтыя няпрыемнасьці.

Падсосныя маткі кормяцца кармамі: аўсянай мукой, ячнай, пшанічнымі высеўкамі, льнянай макухай, буракамі і сенам бабовых, а ўлетку зялёнай травой.

Дача кармоў павялічваецца на працягу 10 дзён і даводзіцца да поўнае нормы. Пояцца маткі 3 разы ў дзень у волю.

### III. Догляд парасят пад маткай

Асноўны догляд за парасятамі заключаецца ў тым, каб забясьпечыць іх належным памяшканьнем, забясьпечыць іх чыстым, сьвежым паветрам і правільным кармленьнем. Для таго каб парасят вырасьціць добрымі неабходна рабіць наступнае:

*Па-першае*, памяшканьне для апаросу і гадоўлі маладняку павінна быць сьветлае, сухое і адносна цёплае. Тэмпэратура ў сьвінарніку зімой для гадоўлі парасят павінна быць 5-8 градусаў Цэльсія. Яна можа падвышацца да 10 градусаў. Падвышаць тэмпэратуру вышэй 10 градусаў зімой у сьвінарніку ня трэба і нават шкодна. У радзільным аддзяленьні тэмпэратура будзе добрай і 6—10 градусаў Цэльсія. У цёплыя часы года яна можа быць і вышэй. Высокая тэмпэратура зімой вядзе да аслабленьня арганізма матак і парасят і павялічвае выпарэньне шкодных газаў у сьвінарніку, ад чаго дрэнна сябе адчуваюць парасяты. Назіраньні паказваюць, што высокія тэмпэратуры ў сьвінарніку дрэнна адбіваюцца на стане здароўя парасят.

*Па-другое*, для таго, каб мець магчымасьць вырашчваць парасят неабходна ім і матцы зрабіць мяккае і сухое ложа. Для гэтага на падлогу кладзецца дастатковая колькасьць падсьцілкі. Неабходна добра глядзець за тым, каб у станку было суха. Лепшай падлогай у станку будзе драўляная. Самая малая гразь у у станках сьвінарніках загразьняе цыцкі матак і ад гэтага парасяты хварэюць.

*Па-трэцяе*, сьвіньням у памяшканьні павінна быць дадзена сьвежае паветра Гэта дасягаецца правільнай вэнтыляцыяй асобнымі трубамі па сыстэме Кінга. З асьцярожнасьцю трэба вэнтыляваць памяшканьні, каб ня было скразьнякоў праз вокны і дзьверы. Парасят, пачынаючы з 5 дзён і не пазьней 10 дзён пасьля нараджэньня, у залежнасьці ад іх здароўя, неабходна зімой выпускаць на прагулку, а ўлетку яны пераводзяцца на пашу. Пры правільных прагулках ніякае прастуды ў парасят не назіраецца. Час прагулкі нельга вызначыць гадзінамі. Яны вызначаюцца па стану здароўя парасят. У добрую пагоду парасят з маткай ганяюць па двары, а ў дні завеі ў манежы. Манеж прадстаўляе з сябе абабіты дошкамі будынак з вокнамі, зусім халодны; робіцца ён для прагулак парасят.

Нельга трымаць парасят без прагулак больш чым 10 дзён пасьля нараджэньня. Назіраньні паказваюць, што ўжо з 5 дзён і асабліва да 20 дзён парасяты без прагулак пачынаюць бляднець і ў іх пачынаецца панос. Прагулкі і мінэральная падкормка зімой або паша ўлетку, ствараюць спрыяючы ўмовы для гадоўлі парасят і захворваньняў на панос ня бывае.

Захворваюць парасяты на панос з 5 дзён іх жыцьця і да ўзросту 20 дзён. Зімой панос ня так страшны. Наогул захварэўшых паносам парасят вельмі цяжка вылячыць, а калі яны і застаюцца жывымі, дык бываюць заморышамі. Прагулкі парасятам з маткамі трэба рабіць кожны дзень, а ў больш цёплыя дні нават і зімой, два разы ў дзень.

*Па-чацьвертае*, парасятам зімой абавязкова трэба даваць мінэральную падкормку. Калі парасятам не даваць мінэральнае падкормкі, дык парасяты ў першыя часы растуць добра, але да 3-тыднёвага ўзросту пачынаюць бляднець. У гэты час яны становяцца вялымі і ў іх пачынаецца сьмярдзючы панос;

праз 2—4 дні парасяты дохнуць да 90 проц. Тыя парасяты, якія і застаюцца жывымі разьвіваюцца дрэнна. Гэта хвароба зьяўляецца бічом вырасьліваньня парасят увосень, зімой і раньняй вясной. Барацьба з паносам парасят—ёсьць барацьба за вырасьліваньне парасят. На гэту падкормку Інстытут Сьвінагадоўлі зварочвае сьвінароў саўгасаў і калгасаў асаблівую ўвагу, бо ад гэтага залежыць больш шпаркае разьвіцьцё сьвінагадоўлі і тым самым мы забясьпечваем выкананьне пастаноў партыі савецкай улады ў вырашэньні мясной праблемы.

У парасят, якія ня ходзяць па зямлі пачынае з трэцяга дня іх жыцьця разьвівацца вапнавае і жалезнае галаданьне. Ад гэтага ў парасят разьвіваецца малакроўе і панос.

Калі парасяты ходзяць па сьвежым паветры і могуць рыцца ў зямлі, дык у іх гэтай хваробы не назіраецца. На пашы парасяты не хварэюць. Мінэральная падкормка парасят складаецца з высушанай дзернавой зямлі (пажадана каб ня было ў зямлі яечак глістоў) ці інш., але ня вельмі пескавой—80 проц., мелу цёртага 5 проц., попелу 5 проц., вуглю дрэўнага 5 проц. і 5 проц. цёртае цэглы. Гэтай мешанкі даецца 1—2 прыгаршні. Мінэральная падкормка мяняецца кожны дзень. Такую мінэральную падкорму даюць у маленькіх карытках пачынаючы з 3-дзённага іх жыцьця. Без мінэральнае падкормкі немагчыма зімой вырасьліваць парасят.

Падкорму парасятам трэба рабіць з таго часу, калі парасяты пачалі есьці, але ні ў якім разе не пазьней 20 дзён іх жыцьця. Парасят пажадана паіць чыстай вадой. Падкормку парасятам трэба рабіць зернавым кормам, лепш падпаленымі крыху зернятамі, а таксама і здыманым малаком. Пажадана даваць парасятам сена, канюшыны ці люцэрны альбо вікавае мешанкі.

Парасятам для падкормкі даецца мешанка зернавых кармоў ў асобным карытцы. Корм пакідаецца на гадзіну, а пасьля гэтага корм убіраецца і карытцы мыюцца. Для падкормкі аддзяляецца ў стану загародка. Корму парасятам, калі яны прывучацца есьці даецца столькі, колькі яны за 20 хвілін зьядуць.

Мешанка кармоў лепшая будзе з ячменнае мукі 50 проц., аўсянае 20 проц., высевак пшанічных 15 проц. і мясакоснае мукі ці крывяное 15 проц.

Замест мясакоснае мукі можна даваць змола照ую ільняную макуху. Можна даваць 10—15 проц. бульбы варанае ад дачы.

Захварэўшым парасятам вельмі добра варыць крупнік з ячных круп і бульбы. Парасяты з маткай улетку з 10-дзённага ўзросту находзяцца на пашы.

Пры правядзеньні ўсяго вышэй апісанага парасяты ня будуць есьці гною і піць жыжы. Яны будуць гадавацца як улетку, так і ўзімку зусім здаровымі.

Навукова-Дасьледчы Інстытут
Сьвінагадоўлі ў Менску.



Стада саўгасу „Пагост“ (Старобінскага раёну).

# Памятка сьвінара па догляду за парасятамі

1. Супаросную матку неабходна трымаць у завадзкім целе таму, што закормленая і захудалая матка часта прыносіць слабых і ня жывых парасят, а таксама ў такой маткі бывае мала малака.

2. За два дні да апаросу перавядзі сьвіньню ў апаросны сьвінарнік. Станок, у які яе ставіш, прадэзэнфэкуй.

3. Прасачы за тым, каб у пераведзенай на апарос сьвіньні ня было на целе паразытаў.

4. Выпускай супаросную сьвіньню на прагулку.

5. Сачы за тым, каб супаросная сьвіньня не рабіла шпаркіх рухаў, атрымоўвала добраякасны корм і не паілася вельмі сьцюдзённай вадой.

6. Не забывай даваць у корм мацеры мінэральныя матэрыі (мешанка бітай шчукатуркі, попелу, вугля, пяску і інш.).

У выпадку запору, зараз-жа зьвярніся да вэтэрынара ці заатэхніка.

7. Зусім немажліва даваць у апошні месяц перад апаросам сьвіньні жалудоў, гарохавай і вікавай мукі, а таксама вялікай колькасьці ячменнай мукі і інш. кармоў, якія могуць выклікаць запор. Лепшымі кармамі для супароснае сьвіньні зьяўляецца аўсянка, пшанічныя высеўкі, вараная бульба, сырыя буракі, люцэрнавае і канюшыннае сена, ільняная макуха. Корм супароснай матцы неабходна даваць у выглядзе жыдкай баўтушкі.

8. Ня стаў сьвіней на апарос у блізкія да дзьвярэй станкі, каб на яе ня дула сьцюдзёнае паветра праз фортку і інш.

9. Дні за два да апаросу дай сьвіньні больш мяккай подсьцілкі.

10. Загадзя прыгатуй усё, што можа быць патрэбна пры апаросе (скрынку для парасят, узімку бутэлькі з цёплай 50—60 градусаў вадою і інш.).

11. Не забудзь наліць у кармушку ў час апаросу чыстай сьвежай вады.

12. У час апаросу сачы за тым, каб ня было лішняга шуму, бегатні і іншага непакойства.

13. Парасят, якія толькі што нарадзіліся, вытры насуха чыстай анучкай, асабліва ногі і пад пахамі. Пупавіну ў парасяці адшчыкні за 10 сантымэтраў ад пупка і абрэж вострыя зубы.

14. Рукі пры прыёмцы парасят павінны быць чыста вымытыя і наогул трэба пільна сачыць за чыстатой пры апаросе.

15. У выпадку зацяжных патуг апаросу, нявыхаду посьледу хутчэй зьвярніся да спэцыялістых. Ні ў якім разе сам рукамі ня лазь у родавыя органы сьвіньні.

16. Зараз-жа прыбірай у асобную скрынку посьлед, пупавіны і мёртвых парасят, каб усё гэта не заставалася ў станку, а пасьля закапай.

17. Прымі ўсе меры прадасьцярогі, каб сьвіньня ня ела і не давіла парасят; лепш



Маладняк калгасу „Расьсвет пераможца“



Жывёла калгасу „Эрштэр май“ (Жлоб. р.).

першыя 3 дні трымай парасят у скрынцы і кожны час падпускай іх да мацеры.

18. Перад першым падпускам парасят да мацеры вымый ёй вымя слабай рашчынай крааліны ў цёплай вадзе (1 проц.) і вытры чыстым ручнікам.

19. Не кармі сьвіньню ў час апаросу і 6 гадзін пасьля апаросу. Корм, у першыя дні давай у жыдкім выглядзе, норму павялічвай паступова.

20. Калі парасяты слабыя, ці ў сьвінарніку сьцюдзёна, пакладзі ў скрыню з парасятамі пад салому бутэлькі з цёплай вадой (50—60°).

21. У выпадку запаленьня вымені, закору альбо адсутнасьці малака ў мацеры зараз-жа зьвярніся да спэцыялістых.

22. Сачы, каб у маткі ў станку было чыста і хапала добрай падсьцілкі.

23. Сачы, каб у паросным сьвінарніку было цёпла, 6—10 градусаў і вольнае паветра.

24. З 4—5 дню пасьля апаросу выганяй матку з парасятамі на прагулку: улетку ў дворык, а ўзімку ў манеж. Пры гэтым сачы, каб парасяты вельмі не захаладзелі.

25. Узімку ў станок маткі з парасятамі пастау нізенькую скрынку куды кожны дзень насыпай сьвежай сумесі пяску, таўчонай цэглы, попелу з вуглямі і крэйды.

26. Старайся раней прывучыць парасят да падкормкі, асабліва калі ў маткі мала малака.

27. Не пакідай на доўгі час ў станку нязьедзеную парасячую падкормку, а ў кармушках маткі яе корм.

28. Правер ці зроблена тубэркулінізацыя кароў, ад якіх даецца малако парасятам і наогул ці здаровыя каровы.

29. Матцы і парасятам давай толькі добраякасны корм.

30. Ня трымай малако для парасят на сонцы.

31. Улетку, як мага больш скарыстоўвай пашу.

32. Ад'ём парасят ад маткі рабі паступова на працягу 3—5 дзён.

33. Ня стаў у час ад'ёму парасят у суседнія станкі з іх маткай.

34. Помні, што чыстата, цёплае, сухое і сьветлае памяшканьне і сьвежае паветра ў ім, а таксама, прагулкі на вольным паветры і добры харч ёсьць залог пасьпяховага вырашчваньня парасят.

35. Калі ў гаспадарцы не з'арганізавана ўдарная брыгада па вырашчваньні парасят, прымі актыўны ўдзел у яе арганізацыі і выклікай на сацспаборніцтва суседнюю гаспадарку.

# РАШУЧА ЗМАГАЦЦА ЗА САЦЫЯЛІСТЫЧНУЮ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЮ

## Мобілізаваць усіх калгасьнікаў і калгасьніц на выкананьне і перавыкананьне праграмы жывёлагадоўлі ў калгасах на 1931 год

### Рэзалюцыя III-га Ўсебеларускага зьезду калгасаў пра разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў калгасах і калгасьнікаў

На аснове разгорнутага будаўніцтва саўгасаў і калгасаў партыя ўжо ў асноўным вырашыла збожжавую праблему і „перайшла да адначасовага вырашэньня праблемы жывёлагадоўлі, якая зьяўляецца ў сучасны момант самай істотнай праблемай“ (Сталін).

Жывёлагадоўчая праблема, як і збожжавая вырашаецца па лініі „ўзьняцьця і ўзмацненьня жывёлагадоўлі, шляхам перш за ўсё арганізацыі спэцыяльных жывёлагадоўчых саўгасаў, аналёгічна збожжа-саўгасаў, масавага стварэньня высокатаварных калгасных фэрм і хуткага вырашэньня кармавой базы“ (XVI зьезд УсеКП(б).

Ужо ў першым годзе масавага калгаснага руху, калгасы БССР дабіліся некаторых посьпехаў у галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі.

Удзельная вага калгасаў па буйнай рагатай жывёле на 1 сакавіка 1931 году дасягнула 20 проц., а па сьвіньнях перавышае 17 проц. ад усяго стада БССР.

Вылучана 508 спэцыяльных малочна-жывёлагадоўчых калгасаў, у якіх пастаўлена 41.772 таварных кароў і 742 спэцыяльных сьвінагадоўчых калгасаў, у якіх пастаўлена 35.200 сьвінаматак.

Аднак, зьезд калгасаў падкрэсьлівае, што ў галіне разьвіцьця жывёлагадоўлі ў калгасах ёсьць рад буйнейшых недахопаў. Асноўнымі з іх зьяўляюцца:

а) Недаацэнка з боку часткі калгасьнікаў, калгасаў і калгассаюзаў важнейшых мерапрыемстваў па жывёлагадоўлі. Справа жывёлагадоўлі, як адна з галоўнейшых задач у разьвіцьці сельскай гаспадаркі не пастаўлена ў цэнтры ўвагі калгасьнікаў і калгасаў.

б) Арганізацыя многіх спэцыялізаваных буйных жывёлагадоўчых калгасаў праходзіла без належнай увязкі з кармавой базай.

в) Невыкананьне плянаў камплектаваньня будаўніцтва (у 1930 г. праграма ў галіне сьвінагадоўлі выканана па будаўніцтве на 66,5 проц., а па камплектаваньні на 65,75 проц., у галіне буйнай рагатай жывёлы — па будаўніцтву на 66 проц. і па камплектаваньні — на 97,5 проц.).

г) Дрэнная арганізацыя працы па ўтрыманьні і доглядзе жывёлы, няўважлівы падбор калгасьнікаў і калгасьніц, даглядаючых за жывёлай і цякучасьць іх складу.

д) Зрыў пляну сіласаваньня (выканана ўсяго 8 проц. пляну); нездавальняючая ўборка сенажацяй і безгаспадарчае скарыстаньне кармоў, што зьявілася асноўнай прычынай труднасьцяй з забясьпе-

чаньнем кармамі калгаснай жывёлы ў сучасны момант.

Зьезд абавязвае праўленьне Белкалгасцэнтру, Калгассаюзы і ў першую чаргу калгасы, прыняць усе неабходныя меры да забясьпечаньня жывёлы кармамі да выхаду на падножны корм.

У адпаведнасьці з ажыцьцяўленьнем пляну калектывізацыі бядняцка-серадняцкіх мас і надаючы вялікае значэньне справе жывёлагадоўлі, як аднэй з важнейшых галін сельскай гаспадаркі, III-ці Ўсебеларускі зьезд калгасаў зацьвярджае наступную праграму па жывёлагадоўлі на 1931 г.

### Па буйнай рагатай жывёле

а) Стада буйнай рагатай жывёлы ва ўсіх калгасах давесьці да 1.063.500 шт. у тым ліку 548.300 штук аграмаджаных.

б) Выгадаваць 330 тысяч цялят, з іх 180.000 штук аграмаджаных.

в) Арганізаваць высокатаварныя малочныя, жывёлагадоўчыя калгасныя фэрмы ня менш 445, з колькасьцю кароў у іх 78.000 штук.

г) Забясьпечыць здачу таварнай прадукцыі малака ня менш 46.000 тон.

д) Лік бугаёў-вытворцаў давесьці ў калгасах да 17.300 штук.

е) Павысіць удой малака па спэцыяльных фэрмах ня менш як да 1.500 літраў і па астатніх калгасах ня менш 1.200 літраў у год у сярэднім ад кожнай каровы.

### Па сьвінагадоўлі

У вырашэньні мясной праблемы першае месца павінна заняць сьвіньня, як найбольш скорасьпелая жывёла. Таму зьезд калгасаў прапануе ўсім калгасам асаблівую ўвагу зьвярнуць на разьвіцьцё сьвінагадоўлі.

а) Стада сьвіней у калгасах давесьці да 1.020.000 штук.

б) Арганізаваць высока-таварных сьвінагадоўчых калгасных фэрм ня менш 1.300, а лік аграмаджаных сьвінаматак у іх давесьці да 150.000 штук і ў астатніх калгасах лік абагуленых сьвінаматак давесьці ня менш як да 22.500 галоў.

в) Здачу калгасамі таварнай прадукцыі сьвінагадоўлі вызначыць у колькасьці ня менш 180.000 штук сьвіней.

г) Лік кныроў-вытворцаў па калгасах давесьці да 6.200 штук.

### Па канягадоўлі

Конская цягавая сіла побач з разьвіцьцём машына-трактарных станцый яшчэ доўгі час будзе займаць вялікае месца ў сельскай гаспадарцы. Зьезд калгасаў даручае праўленьню Белкалгасцэнтру, Калгассаюзам і калгасам весьці рашучую барацьбу з недаацэнкай конскай цягавай сілай.

а) Арганізаваць 7 элевераў для гадаваньня маладняка ў калгасах у колькасьці 350 штук.

б) Племянны склад кабыл-матак давесьці ў калгасах ня менш як да 690 шт.

в) Для забесьпячэньня злучной кампаніі 1931 года, паставіць у калгасах 1.190 жарабцоў. Калгассаюзам і калгасам забясьпечыць найбольш поўнае і правільнае скарыстаньне маючыхся ў калгасах жарабцоў.

### Па птушкагадоўлі і трусагадоўлі

а) Закончыць арганізацыю і камплектаваньне 126 птушкагадоўчых гаспадарак на 90.000 штук птушак і 20 трусагадоўчых гаспадарак на 20.000 штук трусоў.

б) Пабудаваць 34 інкубатары і забясьпечыць выхад куранят ня менш 246.000 шт.

### Па іншай дробнай жывёле і пчалярству

а) Усямерна разьвіваючы асноўныя галіны жывёлагадоўлі, зьвярнуць увагу на захаваньне і разьвіцьцё ў калгасах авец і іншай дробнай жывёлы.

б) Улічваючы важнасьць для сельскай гаспадаркі разьвіцьця пчалярства, зьезд зварачвае ўвагу ўсёй калгаснай сыстэмы на неабходнасьць шырокага садзейнічаньня арганізацыі новых пасек і паляпшэньня становішча існуючых.

### Па кармовым пытаньні

Кармовае пытаньне зьяўляецца вузлавым пытаньнем усёй жывёлагадоўчай праблемы, бо ажыцьцяўленьне праграмы жывёлагадоўлі ў першую чаргу будзе залежыць ад арганізацыі ў калгасах адпаведнай кармавой базы, таму зьезд

зьвяртае асаблівую ўвагу ўсіх калгасаў на стварэньне кармавой базы ў калгасах.

а) Засеяць 217.000 гектараў бульбы, 32.000 гект. кармавых караньплодаў, 20.000 гект. сіласных культур, 99.000 гект. аднагадовых траў і 119.000 гект. канюшыны.

б) Правесьці карэннае і павярховае паляпшэньне сенажацяй на плошчы 163.400 гект.

в) Засіласаваць 502.000 тон зялёнай масы. На справу сіласаваньня павінна быць зьвернута асаблівая ўвага, бо вопыт мінулага году паказаў, якую вялікую ролю адыгрывае сіласаваньне ў вырашэньні кармавога пытаньня. Праграма будаўніцтва вежаў і падрыхтоўка ям і траншэй павінна быць выканана да 1 ліпеня цалкам.

### Па будаўніцтву

У спэцыялізаваных жывёлагадоўчых калгасах пабудаваць новыя аборы і прыстасаваць на 60.000 жывёла-месц і ў сьвінагадоўчых калгасах пабудаваць і прыстасаваць матачнікаў на 125.000 сьвіна-месц і адкормачнікаў на 196.000 сьвіна-месц.

Улічваючы недахоп будаўнічых матэрыялаў, асабліва цьвікоў і жалеза, зьезд лічыць неабходным будаўніцтва праводзіць самым спрошчаным чынам, максымальна скарыстоўваючы старыя будынкі і мясцовыя будматар'ялы.

### Па камплектаваньні і паляпшэньні якасьці жывёлы

Задача фарсіраванага стварэньня калгасных аграмаджаных стад патрабуе поўнага выкарыстаньня ўсіх крыніц для выкананьня плянаў камплектаваньня, у прыватнасьці: забясьпечыць поўную гадоўлю маладняка як буйнай рагатай жывёлы, так і сьвіней і абавязкова выканаць пляны жывёлазагатовак і прыёму жывёлы ад загатоўчых арганізацый. Зьезд асаблівую ўвагу зварачвае на неабходнасьць усямернай мабілізацыі ініцыятывы калгасьнікаў у справе поўнага выкананьня плянаў па камплектаваньні.

Зьезд лічыць абсалютна недапушчальным адставаньне аграмаджаньня жывёлы ад тэмпаў калектывізацыі, што можа прывесьці да зрыву плянаў разьвіцьця калгаснай жывёлагадоўлі. Зьезд патрабуе поўнага выкананьня статуту сельскагаспадарчай арцелі па абагуленьні прадукцыйнай жывёлы.

Аграмаджаньне жывёлы праводзіць безадкладна зараз-жа пасьля прыняцьця статута і афармленьня калгасу.

Прымаючы пад увагу, што многія двух-і больш-кароўныя гаспадаркі перад уваходам у калгас, пад уплывам кулацтва, разбазарваюць сваю жывёлу і гэтым самым зрываюць арганізацыю калгасных фэрм, зьезд у мэтах барацьбы з зьнішчэньнем жывёлы, забараняе прымаць у калгасы тыя гаспадаркі, якія перад уступленьнем у калгасы разбазарваюць сваю жывёлу.

*Гаспадаркі, якія зьнішчаюць, ці разбазарваюць сваю жывёлу, фактычна зьяўляюцца саюзьнікамі кулака і да іх трэба адносіцца, як да ворагаў калгаснага руху.*

Зьезд калгасаў ухваляе мерапрыемства Калгасцэнтру па стварэньні ў калгасах племянных гнёзд буйнае рагатае жывёлы, як з чыстапароднай жывёлы, так і мясцовай палепшанай мэтызаванай і прапануе забясьпечыць пасьпяховае правядзеньне злучнай кампаніі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на мэтызацыю.

Аднэй з важнейшых умоў разьвіцьця жывёлагадоўлі зьяўляецца правільнае кармленьне і догляд жывёлы. Зьезд прапануе ўсім калгасам правесьці рад мерапрыемстваў па арганізацыі правільнага кармленьня і эканомным выдаткаваньні кармоў, пабудове простых кармушак, ацяпленьні хлявоў і г. д.

Зьезд даручае праўленьню Калгасцэнтру выдаць рад папулярных плякатаў і брашур па кармленьні і доглядзе жывёлы з тым, каб кожны калгасьнік ведаў, як трэба змагацца за высока-прадукцыйную калгасную жывёлу.

### Па арганізацыі калгасных фэрм і павялічэньні таварнай прадукцыі

У мэтах арганізацыі буйнай калектыўнай жывёлагадоўчай гаспадаркі і стварэньні найбольшай таварнасьці, зьезд калгасаў даручае праўленьню Калгасцэнтру і калгассаюзам не пазьней

10 красавіка г. г. арганізаваць у калгасах, на аснове пастановы ўсесаюзнай нарады па жывёлагадоўлі і пастаноў ураду, малочныя і сьвінагадоўчыя калгасныя фэрмы, заключыўшы з калгасамі дагавары на падстаўку у гэтых фэрмах ня менш 78.000 малочных кароў і 150.000 сьвінаматак.

Таварна-малочныя і сьвінагадоўчыя фэрмы, як правіла могуць быць арганізаваны ў тых калгасах, дзе ёсьць ня менш 50 аграмаджаных кароў, або сьвіней, дапускаючы ў асобных выпадках афармленьне арганізацыі фэрм і пры меншай колькасьці жывёлы.

Адзначаючы слабае выкананьне калгасамі плянаў здачы таварнай прадукцыі і нават выпадкі поўнага разьмеркаваньня паміж членамі калгасамі таварнага закантрактаванага малака і таварных сьвіней, зьезд абавязвае ўсе калгасы поўнасьцю і сваячасова выканаць пляны здачы (продажу) таварнай прадукцыі малака і сьвіней.

Праўленьню Калгасцэнтру і калгассаюзам рашуча змагацца з сабезаўскімі і спажывецкімі настроямі паасобных калгасьнікаў і кіраўнікоў калгасаў, якія пад уплывам кулацтва зрываюць пляны забесьпячэньня, разбазарваючы прадукцыю калгаснай жывёлагадоўлі.

### Па арганізацыі працы

Пасьпяховае вырашэньне жывёлагадоўчай праблемы ў калгасах у значнай ступені будзе залежыць ад правільнай арганізацыі працы і расстаноўкі спэцыяльна падрыхтаваных сіл калгасьнікаў.

Зьезд катэгарычна асуджае некаторыя калгасы і тых калгасьнікаў, якія думаюць, што быццам-бы праца па абслугоўваньню сьвіней горш за працу па абслугоўваньню іншых галін гаспадаркі.

Для абслугоўваньня жывёлы павінны быць у кожным калгасе створаны сталыя брыгады, склад якіх без асаблівай патрэбы не павінен зьмяняцца,

*У аснову арганізацыі працы ў галіне жывёлагадоўлі палажыць зьдзельшчыну і цьвёрдыя нормы выпрацоўкі.* Вынікі працы павінны ацэньвацца павышэньнем прадукцыі жывёлы (удою, узросту, вагі жывёлы і г. д.) пры пагоршаньні стану жывёлы, ці зьнішчэньні жывёлы, у выніку дрэннага абслугоўваньня яе, неабходна паніжаць расцэнку працы, як за нізкую якасьць працы ці ўсе страты (падзеж) адносіць за рахунак тых асоб, па віне якіх гэта здарылася. За выдайваньнем кароў абавязкова ўстанавіць кантроль.

За лепшы догляд жывёлы, за дасягненьні большай эфэктыўнасьці, пры эканомным выдаткаваньні кармоў, калгасьнікі і калгасьніцы павінны абавязкова прэміявацца і ў першую чаргу павінны вылучацца на больш адказную працу ў калгасах, пасылацца на вучобу і г. д.

### Па разьвіцьці жывёлагадоўлі ў калгасьнікаў

Выходзячы з таго, што статут сельскагаспадарчай арцелі дазваляе трымаць у аднаасобным карыстаньні жывёлу, вырасьліваць маладняк і прыкупаць у аднаасобнае ўладаньне калгасьнікаў буйную і дробную жывёлу ў тым ліку і сьвіней, Зьезд прапануе калгассаюзам і праўленьням калгасаў аказваць усялякае садзейнічаньне ў правільным уходзе за прыналежачай калгасьнікам жывёлай, шляхам прадстаўленьня пасьбішч, натуральных выдач кармоў у лік прылічваючыхся калгасьнікам прыбыткаў і г. д.

### Па санітарыі і вэтэрынарыі

III-ці зьезд калгасаў адзначае, што праца па санітарным і вэтэрынарным абслугоўваньні калгаснага сэктару з боку большасьці вэтпэрсаналу праводзіцца зусім нездавальняюча. Участковая вэтэрынарыя яшчэ не пераключыла сваёй работы на масавае і пераважнае абслугоўваньне калгасаў, работа вэтпунктаў абмяжоўваецца галоўным чынам амбуляторнай дапамогай. Прафіляктычныя мерапрыемствы па калгасах амаль што не праводзяцца. Ва многіх калгасах жывёла знаходзіцца ў анты-санітарных умовах. У выніку ўсяго гэтага розныя заразьлівыя хваробы пагражаюць вялікімі стратамі жывёлы.

Неабходна карэнным чынам рэарганізаваць вэтэрынарную сыстэму, накіра-

ваўшы работу вэтвучасткаў пераважна на абслугоўваньне сацыялістычнага сэктару. Кожны калгас павінен арганізаваць, пад кіраўніцтвам і наглядам вэтэрынарных дактароў, выкананьне санвэтмінімуму, для чаго вылучыць адказных асоб з калгасьніц і калгасьнікаў, якіх прапусьціць праз практычныя курсы санітараў пры вэтпунктах.

Пасьпяховае вырашэньне праблемы жывёлагадоўлі на аснове саўгасаў і калгасаў выклікае шалёнае супраціўленьне кулацтва. Зьезд калгасаў заклікае калгасы згрупаваць усе свае сілы і бядняцка-серадняцкія масы на барацьбу з кулацтвам, на барацьбу з праваапартуністычным самацёкам і „левымі“ загібамі, ачысьціць калгасную сыстэму ад усіх шкоднікаў і варожых элемэнтаў, змагацца за поўнае выкананьне бальшавіцкай праграмы па вырашэньні жывёлагадоўчай праблемы.



Ударнік калгасу „Ільліч“. (Рэчыцкага раёну) за работай ў полі.

## ТОЛЬКІ НА БАЗЕ САУГАСАУ І КАЛГАСАЎ МАГЧЫМА ВЫРАШЫЦЬ ПЫТАНЬНЕ ЖЫВЁЛАГАДОЎЛІ.

# Дравесны корм запоўніць дэфіцыт у грубых кармох

Зусім своечасова было высунута пытаньне аб скарыстаньні дравеснага корму ў якасьці дапаможнага корму для жывёлы.

Ёсьць ужо шмат калгасаў і савецкіх гаспадарак, якія ацанілі належна дравесны корм і шырока прыстасоўваюць яго ў сваіх гаспадарках. Вось што яны пішуць.

„Першыя спробы дравеснага корму далі ў нас добрыя вынікі. Каровы вельмі добра ядуць раздробленую гальлёвую масу, нават без дадатковай матэрыі, якая-б паляпшала смак корму. Спачатку мы аднесьліся к дравеснаму корму з недавер'ем. Ён шмат каму ў саўгасе здаваўся недабраякасным сурагатам, ад якога магчыма захварваньне страўніка ў жывёлы. Дасьледваўшы корм на працягу 3-х тыдняў мы зьмянілі свой погляд. Каровы, якія пастаўлены на дравесную сечку добра выглядаюць і даюць добрыя ўдоі".

Удзельнічаючы ў экспэдыцыі па абсьледваньні буйнай рагатай жывёлы па БССР, арганізаванай Беларускім інстытутам сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі імя Леніна, нам прыходзілася сустракацца даволі часта з выпадкамі скарыстаньня дравеснага сена ў якасьці корма для жывёлы ў БССР. У вёсках Барсук і Княжычы, Юраўскага раёну (на Мазыршчыне), сяляне выганяюць сваю жывёлу рана вясной у лес: самі выходзяць з тапарамі і абсякаюць гальлё, якое і спажываецца жывёлай. У Кажушках таго-ж раёну жывёла раньняй вясной заганяецца ў „гало" (гэтак завуцца тут балоты), дзе жывёла разам з засохшай леташняй няпрыбранай травой зьядае і маладое гальлё кустарніка, які там расьце.

У нас (у былой яшчэ Расіі) праф. Калугін у сваіх досьледах паступова замяняў салому і сена для буйнай рагатай жывёлы адпаведнай колькасьцю дравеснага сена, даводзячы дачу да 5 клгр. на галаву ў дзень. Каровы паядалі рэзку з вялікай ахвотай і вынікі досьледу былі вельмі добрыя. Вага дасьледваных кароў не адрозьнівалася ад вагі кантрольных кароў. Тое-ж самае можна сказаць і пра малочную вытворчасьць. У сучасны момант досьледы з дравесным сенам вядуцца на Адзінцоўскай Дасьледчай станцыі, Маскоўскай канторы Саюзтранс, Багароцкай фэрмы, Грыбаўскай сэлекцыйнай станцыі і ў Ачакоўскім і Нямчынаўскім саўгасах малочнагароднага трэсту.

Усё гэта кажа аб тым, што пытаньне аб рацыянальнасьці скарыстоўваньня дравеснага сена маюць ужо пад сабой цьвёрдую глебу. Грунтуючыся на гэтым Маскоўская абласная РСІ 26 студзеня гэтага году правяла нараду прысьвечаную дравеснаму сену, на якой і вынесла пастанову аб фарсіраваньні працы па нарыхтоўцы і скарыстоўваньні дравеснага корму.

У нас у БССР маецца шмат лясоў. Вядзецца шмат лесанарыхтовак. Гальлёвы корм пры гэтым фактычна будзе зьяўляцца адкідам лесанарыхтовак, пры тым адкідам да некаторай ступені шкодным, бо пакідаючы гальлё на месцы мы затрымоўваем натуральнае лесаадналеньне (займае плошчу, служыць прытулкам для шкоднікаў і г. д.). Скарыстоўваючы гэта гальлё мы прыносім карысьць як лясной, так і жывёлагадоўчай гаспадарцы.

Як-жа скарыстоўваецца гэта дравеснае сена.

Па-першае, трэба адрозьніваць дравеснае сена, нарыхтаванае ўзімку і ўвесну (бяз лісьця) і нарыхтаванае ўлетку і ўвосень (з лісьцем).

Цыфры кажуць за тое, што зрэзанае ўзімку гальлё дыямэтрам да 1 сант. па спажыўнасьці павінна быць пастаўлена паміж саломай і сенам сярэдняй якасьці. Вясновыя пабегі значна ўступаюць па спажыўнасьці зімовым. Гэта трэба мець на ўвазе. Трэба зараз-жа прыступіць к нарыхтоўцы дравеснага сена.

Найбольш спажыўнае дравеснае сена дае бузіна, явар, ільм, ліпа, клён, асіна, вярба, ясень, белая акацыя і г. д. Альха і дуб багаты дубільнай кіслатой, чаму спажываньне іх шкодна для жывёлы.

Наогул трэба сказаць, што гальлё магчыма даваць належным чынам падрыхтованае. Праф. Раман рэкамэндуе наступную падрыхтоўку. Гальлё ў дыямэтры да 1 сант. рэжацца на асобных, падобных да саломарэзкі альбо сіласарэзкі, машынах на дробныя кавалачкі. Апошнія зьлёгку раздаўліваюцца. Уся маса, да якой дадаваўся 1 проц. соладу складалася ў кучы і палівалася цёплай вадой альбо бардой. Маса пачынала, дзякуючы соладу і мікраарганізмам, брузаваць, тэмпэратура на працягу 2—3 дзён падымалася да 60—70°. Прыгатаваны такім чынам корм, як паказалі досьледы, жывёла зьядала з вялікай прыемнасьцю.

Праф. Калугін некалькі відазьмяніў гэты спосаб падрыхтоўкі корму: замест соладу, які дарагі і не заўсёды маецца пад рукамі ў гаспадарцы, ён рабіў закваску кіслым малаком. Вынікі атрымаліся вельмі добрыя. Пры гэтым трэба адзначыць, што скарыстаўшы адзін раз невялікую колькасьць кіслага малака (1 сталовую лыжку на вядро вады) у якасьці закваскі, далей магчыма ўжо карыстацца вадкасьцю ад брадзіўшага корму, уносячы яе як закваску для падрыхтоўкі новай порцыі дравеснага сена. На працягу ўсёй зімы патрабуецца пры гэтым спосабе некалькі лыжак кіслага малака. Корм пры гэтым спосабе становіцца мяккім, набывае прыемны кіславаты смак і пах і паядаецца жывёлай з вялікай прыемнасьцю.

У нас зараз на мясцох назіраецца вялікі недахоп грубых кармоў. Гэты дэфіцыт магчыма запоўніць дравесным сенам. Для гэтага неабходна: 1) зараз-жа прыступіць да нарыхтоўкі дравеснага сена, скарыстоўваючы астатнія зімовыя месяцы. 2) Брыгадам масавага дасьледваньня шырока азнаёміць насельніцтва з гэтым новым відам корму і закласьці шэраг досьледаў з дравесным сенам. 3) Арганізаваць перасоўку дравеснага сена для снабжэньня ім бязьлесных раёнаў. 4) Наладзіць масавую вытворчасьць прылад к саломарэзкам і сіласарэзкам для скарыстаньня апошніх для рэзкі гальля.

Неабходна вакол гэтага пытаньня стварыць шырокую кампанію, уцягваючы ў яе ўсю мясцовую грамадзкасьць, асабліва камсамол і прафсаюзы. Для рэзкі гальля скарыстоўваюцца сіласарэзкі. Апошнія трэба некалькі прыстасаваць для гэтага.

Маюцца ўжо прапановы вынаходцаў Тэртышнікава, Воўкава і Брамка. Каштоўнасьць рэкамэндуемых гэтымі вынаходцамі прылад невялікая і масавая вытворчасьць іх не патрабуе асобных затрат. Сіласарэзка з гэтай прыладай дае ад 1 да 2-х тон гальлёвай масы ў гадзіну.

Нарыхтоўку дравеснага сена ўлетку і ўвосень (з лісьцем) мажліва правесьці і такім чынам. Зрэзанае гальлё даўжынёй да 1 мэтра зьвязваецца ў пукі і ў выглядзе венікаў (дыямэтр да 8 снт. у месцы перавязкі) разьвешваюць для прасушкі. Прасушаныя венікі (сушка 7—20 дзён, у залежнасьці ад надвор'я) складаюцца на падстрэшшы, сенавалах альбо ў невялікія круглыя стагі. Пры гэтым венікі кладуць камлёвай часткай вонкі. Вяршына робіцца купалападобнай і пакрываецца буйным гальлём, а потым саломай.

Добрыя вынікі дае і такая нарыхтоўка дравеснага сена, калі нарэзанае гальлё слоем укладаецца ў стагі і пракладаецца травяным сенам.

**А. Сяргееў.**

# СЕЛЬКОР, што ты зрабіў па распаўсюджваньню часопісу „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ"?

# ПРАВЕСЬЦІ ВАПНАВАНЬНЕ ГЛЕБЫ

Поўнага павялічэньня ўраджайнасьці мы можам дабіцца толькі ў буйных сацыялістычных гаспадарках калгасаў і саўгасаў, дзе можна выкарыстаць мэханізаваную апрацоўку зямлі, агранамічныя веды, ужываньне ўгнаеньняў і г. д.

Спынімся на тым, як ужываць вапну на ўгнаеньне, якая ва ўмовах БССР знаходзіцца ў неабмежаванай колькасьці. На 1931 г. урад БССР намеціў завапнаваць 60.000 *га*, з якіх у саўгасах 10.000 *га*, калгасах 40.000 *га* і вытворчых таварыствах 10.000 *га*.

Вапнаваньне глебы зьяўляецца адным з мерапрыемстваў хэмізацыі земляробства, якое накіравана на падвышэньне прадукцыйнасьці глебы. Ва ўмовах Беларусі, дзе пануюць падзолавыя і забалочаныя кіслыя глебы, вапнаваньне глебы адыгрывае значную ролю і таму на правядзеньне гэтага мерапрыемства павінна быць зьвернута асаблівая ўвага.

Ня гледзячы на тое, што дасьледчымі станцыямі Беларусі дастаткова даказана карысьць ужываньня вапны, гэтае мерапрыемства ў працягу 2-х гадоў было сарвана: так вапнаваньне ў 1929 г. выткарана на 16 проц. і ў 1930 г. да 20 проц. ад заданьняў. Прычыны гэтых зрываў ня ў тым, што нашы глебы не патрабуюць вапнаваньня, а ў тым, што з боку аграпрацаўнікоў і іншых работнікаў ня было праведзена дастатковай арганізацыйна-растлумачальнай і паказальнай работы па ўнядрэньню і ўжываньню вапны. Дробная індывідуальная сялянская гаспадарка не давала магчымасьці шырокага скарыстаньня дасягненьняў дасьледчых станцый. Шпаркае разьвіцьцё калектывізацыі БССР, значны ўзрост калгасаў, саўгасаў, даюць усе мажлівасьці для правядзеньня шэрагу мерапрыемстваў па падвышэньню і палепшаньню прадукцыі сельскае гаспадаркі і практычнага ажыцьцяўленьня ў шырокіх разьмерах вапнаваньня глебы.

### Чаму трэба вапнаваць глебу

Вядома, што па БССР распаўсюджаны падзолістыя глебы, у якіх вапна з варанага слою ў большасьці вымыта. Глебы, у якіх не хапае вапны маюць шмат шкодных для расьлін кіслот, пры апрацоўцы іх пыляцца, лёгка спыльваюцца, цьвярдзеюць і пасьля дажджу пакрываюцца скарынкай Унасімыя мінэральныя угнаеньні, заворваемы гной, торф, лубін і інш., на такіх глебах дзейнічае менш на падвышэньне ўраджайнасьці. Выткараныя ў працягу 2-х год дасьледваньні глеб па кіслотнасьці, дасьледчымі станцыямі і цэнтральнай аграхэмічнай лябораторыяй, паказалі, што больш 90 проц. ад усіх глеб Беларусі патрабуюць вапнаваньня.

Галоўная карысьць ад вапны тая, што яна:

1) утварае дробна-грудкаватую будову глебы. Ад вапнаваньня глеба робіцца больш пульхнаю, лепш прапускае паветра, не дае скарынкі і лягчэй апрацоўваецца;

2) зьнішчае і памяншае кіслотнасьць на падзолавых глебах, лішкі якой шкодны для шмат высяваемых расьлін;

3) павялічвае ўплыў і карысьць ад ужываньня мінэральных угнаеньняў;

4) дапамагае хутчэйшаму раскладу арганічных угнаеньняў (гной, лубін, торф);

5) захоўвае раскладзеныя часткі арганічных угнаеньняў у глебе ад вымываньня;

6) узмацняе дзейнасьць карысных бактэрый у глебе;

7) зьнішчае некаторыя грыбныя хваробы расьлін (капусная кіла).

### На якія глебы і пад якія расьліны трэба ўжываць вапну

**Амаль** усе глебы Беларусі патрабуюць вапнаваньня, але каб удасканаліць патрэбу кожнага поля саўгасу, альбо калгасу ў колькасьці вапны, патрэбна праверыць кіслотнасьць глебы. Гэту працу павінен выткарыць райаграпрацаўнік, альбо па тым раёнам, дзе маецца райаграхэмічная служба — райаграхэмік. Можна ўзяць сярэдняю пробу глебы з поля, якое мяркуецца завапнаваць і пасьлаць на аналіз Цэнтральн. Аграхэмічнай Лябараторыі, альбо ў Горкі С.-Г. Акадэміі.

Якія ў першую чаргу вапнаваць глебы магчыма вызначыць таксама па розным наглядальным прызнакам. Галоўныя з іх будуць: 1) калі на пахаці расьце

шмат дробнага шчаўя, шпэргалю, казяльца, паўзучага, хвашча і інш. кіслыя, то такая глеба ў першую чаргу патрабуе ўнясеньня вапны. На кіслых глебах канюшына расьце надзвычайна дрэнна, бывае нізкарослая і не дае суцэльнага травастою, а расьце большай часткай лапінамі. Пры ўнясеньні ў такую глебу вапны гэтае зьявішча з ростам канюшыны ліквідуецца, бо яна пасьля зьнішчэньня кіслотнасьці расьце буйная і суцэльным раўнамерным травастоем. 2) У канавах ці ямах, якія знаходзяцца на полі, вада бывае жоўтаватага колеру. Часта вада, якая вымываецца з глебы, мае на паверхні радужную пленку па колеру падыходзячую да газы ці нафты на вадзе. Гэтае зьявішча паказвае на недахоп у глебе вапны, а таму такія глебы таксама патрэбна вапнаваць у першую чаргу;

Лепш усяго ўнасіць вапну: 1) пад віка-аўсяную мешанку ў занятым папары; 2) пад жыта, пшаніцу, ячмень і авёс з падсевам канюшыны, якая значна дае прыбаўкі ўраджаю пасьля вапнаваньня глебы, 3) пад зернавыя—бабовыя: гарох, фасоль і бабы; 4) караньплоды.

Вапну нельга ўносіць непасрэдна пад пасевы лёну, каноплі, бо атрымліваецца валакно дрэннай якасьці, а таксама пад бульбу, бо яна тады больш хварэе рознымі грыбнымі хваробамі, пад лубін і сэрадэлю. Па гэтаму ў севазвароце вапну трэба ўнасіць з такім разьлікам, каб вышэйпералічаныя культуры пападалі на завапнаваныя палі праз 2-6 гадоў пасьля вапнаваньня.

### Колькі патрэбна ўнасіць вапны на гектар

Пасьля вызначэньня аграномам кіслотнасьці, высьвятляецца колькі патрэбна класьці вапны на *га*. Патрэбу ў вапне таго ці іншага поля, сенажаці магчыма вызначыць непасрэдна ў полі простымі прыладамі—унівэрсальным індыкатарам. Ня гледзячы на тое, што ўсе раёны гэтымі прыладамі забясьпечаны, яны райаграпрацаўнікамі ў большасьці не скарыстоўваюцца. Ёсьць такія раёны, у якіх маецца па 5-6 індыкатараў і стаяць на працягу 1-2 гадоў у шафе бяз усякага руху (Клімавіцкі, Крычаўскі раёны).

Па маючымся матар'ялам дасьледчых станцый прыблізна можна раіць унасіць на 1 *га*:

| | |
|---|---|
| на лёгкіх пяшчаных і супяшчаных глебах . . . | 2—3 тоны |
| на лёгкіх суглінках . . . | 3—4 „ |
| „ сярэдніх суглінках . . | 4—5 „ |
| „ цяжкіх глiністых. . . | 5—8 „ |

Такую колькасьць можна ўжываць крэйдавых адкідаў Добрускай папяровай фабрыкі. Маргэль, якога шмат на БССР, магчыма ўжываць у $1^1/_2$—2 разы больш, гледзячы ад проценту вапны.

### Калі ўнасіць вапну

Размолатая вапна і крэйда дзейнічае ў глебе павольна, а таму лепш вапнаваць глебу за некалькі месяцаў да сяўбы. Пад азімыя культуры трэба вапну ўнасіць перад першым ворывам альбо пры занятым папары пад віка-авёс з восені. Пад яравыя культуры лепш ўнасіць з восені пры зяблевым ворыве.

### Як трэба ўнасіць вапну

Вапну трэба раскідаць па полі спэцыяльнымі вапнянымі сеялкамі, якія гэтай вясной завозяцца, альбо тукавікавымі па расьсеву мінэральных угнаеньняў. Некаторыя калгасы ў мінулым годзе наладзілі расьсеў вапны напасрэдна з калёс лапатамі, дзеля чаго патрэбна пры такім унясеньні разьлічаць точна, каб вызначаную колькасьць вапны на *га* расьсяваць раўнамерна. Задзелку вапны трэба вытвараць на глыбіні пахатнага слою. Калі на поле ўносіцца гной, дык вапна павінна быць задзелана ўперад і толькі ў выпадку ўнясеньня іх разам, трэба хутчэй пасьпяшацца з задзелкай.

### Што дае вапнаваньне глебы

Досьледы з вапнай паказалі вялікую карысьць ад вапнаваньня глебы. Паводле даных дасьледчых станцый на суглінках і супесях ад вапнаваньня глебы мажліва атрымаць падвышэньне ўраджайнасьці па зернавым на 15 проц., бабовым і канюшыне на 25 проц. у адзін год. Вапна дзейнічае да 8 гадоў і кожны год дае прыбаўкі ўраджаю. Унесеныя 3-4 тоны вапны на 1 *га* коштам 11-15 руб. адзін раз на працягу 5-8 гадоў даюць прыбаўкі ва ўраджаях на 90 руб. агульнага прыбытку.

Кесараў.

# Перапіска з селькорамі

**Шумілаву** (Шклоўскі раён).

Артыкул аб спэцыялізацыі раёну ня пойдзе, няма належнай канкрэтнасьці. Пішэце як ідзе сяўба ў калгасах.

**Ігнацёнку** (Касьцюковіцкі раён).

„Зьдзельшчына—моцны вагар калектыўнай гаспадаркі і ўдар па кулаку“ ня будзе зьмешчаны, адны агульныя разважаньні.

Пішэце лепей, як канкрэтна калгасы пераходзяць на зьдзельшчыну і якія ў іх дасягненьні ў гэтым напрамку.

**Пятрову** (Менск). Ваш артыкул „Палепшым звычайную сялянскую курыцу“ ня будзе зьмешчан. Вельмі агульна напісана, няма канкрэтных указаньняў аб паляпшэньні калгаснай птушкі.

**Гуру** (Ветрынскі раён).

Допіс „Спэцыялісты Ветрыншчыны ў шэрагу ўдарнікаў пасеўфронту“ ня пойдзе. Вы толькі адзначылі, што спэцыялісты выпрацавалі шэраг мерапрыемстваў, а як яны іх выконваюць не ўказалі. Пішэце, як праходзіць веснавая сяўба.

**Канькову** (Шклоўскі раён). Допіс „Як калгасы падрыхтаваліся да веснавой кампаніі“ будзе зьмешчан. Пішэце яшчэ.

Наконт вашай тэлефанаграмы рэдакцыя паслала вам ліст.

**Модліну** (Магілеўскі раён).

Ганарар вам выслан. Пішэце яшчэ.

**Глуху** (Барысаў).

Ваш артыкул пасланы на расьледваньне ў Калгасцэнтр.

**Гарэліку** (Жлобінскі раён).

Допіс аб жыцьці калгасу „Эршт Май“ зьмесьцім. Пішэце аб ходзе веснавой сяўбы ў калгасе, аб калгасным прыліве.

Допісы пішэце па магчымасьці чарніламі і больш разборчыва.

**Фота-кору Цэлупко** (Брагінскі раён).

Вашы фота-здымкі скарыстаем. Па скарыстаньні іх вышлем ганарар. Дасылайце яшчэ аб ходзе веснавой сяўбы і г. д. Старайцеся дасылаць здымкі больш ясныя і да іх допісы ці нарысы.

**Гінзбургу** Янку (Вушачы).

Вашы фота-здымкі атрымалі. За скарыстаныя вышлем ганарар. Дасылайце яшчэ.

**Кавалёву П. Н.** (Клімавіцкі раён).

Допіс „Лічбы бальшавіцкай працы і выклік на распаўсюджваньне часопісу атрыман“. Зьмесьцім. Чакаем вынікаў па збору падпіскі на часопіс „Шляхі калектывізацыі“ і допісаў аб ходзе сяўбы ў калгасах, пераход на зьдзельшчыну, падрыхтоўка да ўборкі ўраджаю, новы прыліў і г. д. Кожную тэму апісвайце ў асобнай заметцы і абавязкова прывядзеце лічбы і факты. Калі магчыма дасылайце разам з допісамі фота-здымкі, за якія аплачваем асобна. Допіс „Новыя байцы калгаснай арміі“ ня пойдзе, спазьніўся.

## НАПАМІНАК

**Калгасы, якія атрымоўваюць часопіс „Шляхі калектывізацыі“ з 1931 г. і не даслалі падпісной платы, павінны даслаць грошы ў кантору газэты „Калгасьнік Беларусі“. У іншым выпадку рэдакцыя спыніць высылкі часопісу.**

Адрас канторы: Менск, Савецкая 68.

Адказны рэдактар—Рэдкалегія:
Аўчыньнікаў Т., Бондар Г., Паніматка, Самусевіч, Сямашка С.

Падпісвайцеся — НА ЧАСОПІС —

# „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“

Орган Наркамзему і Калгасцэнтру БССР. Выдавецтва ЦК КП(б)Б „Калгасьнік Беларусі“

**Часопіс шырока асьвятляе пытаньні калектывізацыі сельскай гаспадаркі, жыцьцё і працу саўгасаў, камун, арцеляй, вытворчых таварыстваў**

**Кожная калектыўная гаспадарка, кожная вёска павінны выпісваць часопіс. Кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк павінен чытаць**

**часопіс „ШЛЯХІ КАЛЕКТЫВІЗАЦЫІ“**

ЧАСОПІС РЭГУЛЯРНА ВЫХОДЗІЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ НА 32-Х СТАРОНКАХ З ШМАТЛІКІМІ ФОТА-ЗДЫМКАМІ І КАШТУЕ ЎСЯГО ТОЛЬКІ:

| | | |
|---|---|---|
| На 1 год — 24 нумары | . . 3 руб. | |
| „ 6 мес. — 12 „ | . . 1 „ | 50 к. |
| „ 3 „ — 6 „ | . . — — | 75 „ |
| „ 1 „ — 2 „ | . . — — | 25 „ |

**Падпіску здавайце на пошту альбо лістаносцу**

Адрас рэдакцыі часопісу:

*г. Менск, Савецкая, 68, 2-гі паверх.*

Друкарня імя Сталіна. Заказ № 954. 5.000 экз. Галоўлітбел № 3007.